# ПОЛАЦАК

Выданьне Беларускага культурна-
асьветніцкага цэнтру
Кліўленд
ЗША




№2(32), 1994



*15 сакавіка 1994 г. сакратару часопіса «Полацак»*
*Міхасю Белямуку споўнілася*

**70 год**

# Polatsak



Прозьвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence should be addressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. & Fax. (216) 651-3451

# Зьмест



На першай бачынцы вокладкі: Маркі БНР
На развароце: **Мікола Купава**. «Напачатку. Кастусь Каліноўскі.»
На трэцяй бачынцы вокладкі. **Алесь Пушкін**. «Памяці 1863 г.» Палатно, каменьне, кроў, 1989 г. (уверсе)
Лукішкі ў Вільні. Мэмарыяльная дошка на месцы, дзе былі пакараны сьмерцю Каліноўскі і Серакоўскі (унізе)

**Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі**



**Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America**

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

---

25 сакавіка 1994 года

Кліўлендскаму аддзяленню БАЗА
Культурна-асветніцкаму цэнтру "Полацак"
Рэдакцыйнай калегіі часопіса "Полацак"

Паважанае спадарства!

Шлю Вам шчырыя прывітанні з чарговымі ўгодкамі 25 сакавіка.

Традыцыі беларускай самасвядомасці і незалежнасці, якія замацоўваліся ў тыя часы, набылі сваё сапраўднае ўвасабленне з абвяшчэннем суверынітэту нашай роднай Беларусі. І вельмі пачэсная справа далейшага развіцця самастойнасці Бацькаўшчыны, безумоўна, вартая таго, каб і надалей аддаваць ёй сваю энергію і творчыя сілы, як рабілі гэта сумленныя беларусы на працягу дзесяцігоддзяў, знаходзячыся ўдалечыні ад Радзімы. Еднасць беларусаў свету, іх агульная адданасць справе нашай дзяржавы - гэта тое, што будуе незалежную нацыю.

Шчыра зычу Вам заўсёды заставацца носьбітамі духа беларускасці, здароўя і поспехаў усім суайчыннікам.

З глыбокай павагай,

Пасол С.Мартынаў

**Belarusan-American Association, Inc.**
БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІНОЧАНЬНЕ
NATIONAL HEADQUARTERS
166-34 GOTHIC DRIVE
JAMAICA, N. Y. 11432



САКАВІКОВАЕ ПРЫВІТАНЬНЕ

24 сакавіка 1994 г.

*Дарагія Сябры!*
Паважаныя Суродзічы на Бацькаўшчыне і на Чужыне!

У імя вольнай дэмакратычнай Беларускай Дзяржавы галоўная ўправа Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня віншуе Вас зь 76-мі ўгодкамі абвешчаньня Трэцяй Устаўной Граматай Рады БНР незалежнасьці Беларускае Народнае Рэспублікі. Ідэалы Акту 25 Сакавіка, сфармуляваныя ў Другой Устаўной Грамаце Рады БНР 9 сакавіка 1918 году--«вольнасьць слова, друку, сходаў, забастовак, хаўрусаў: бязумоўная вольнасьць сумленьня, незачэпнасьць асобы і памешканьня»--гэтыя правы чалавека, застаюцца актуальнай часткай праграмы сучаснага адраджэньня на Беларусі. Хоць гэтыя правы і свабоды запісаныя ў Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, яны гвалтуюцца аўтакратычным дзяржаўным апаратам, намэнклятурным чыноўніцтвам.

Людзі ўчарашняга дня, чужыя дэмакратычным прынцыпам і варожыя справе нацыянальнага адраджэньня Беларусі, імкнуцца здушыць дух свабоды ў беларускім грамадзтве, стрымаць аднаўленьне культурных вартасьцяў, згвалціць і скампраметаваць ідэю эканамічных рэформаў. Сувэрэнітэт і незалежнасьць дзяржавы сталіся аб'ектам гандлю паміж недэмакратычным урадам Рэспублікі Беларусь і апэратарамі расейскай імпэрыі. Вялікая гістарычная дата, Дзень 25 Сакавіка, ігнаруецца афіцыйнымі ўладамі на Беларусі. Правы чалавека не дачакаліся яшчэ свайго дня: намэнклятурнае чыноўніцтва, міліцыянты, пракуратура і нават войска ўцягнутыя ў ганебную акцыю запалохваньня і перасьледу грамадзянаў, здушваньня свабоды, перашкаджаньня збору й пашырэньню інфармацыі.

Намэнклятура, якая служыла папярэдняму рэжыму, заціскае гістарычную праўду пра злачынствы гэнага рэжыму, у тым ліку пра акты генацыду, як аб гэтым сьветчыць нежаданьне ўладаў выявіць і асудзіць спраўцаў масавых расстрэлаў мірнага жыхарства ў Куралатах

У сувязі з угодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларускае Народане Рэспублікі галоўная ўправа Белруска-Амэрыканскага Задзіночаньня заклікае сваіх сяброў і ўсіх сумленных людзей падтрымваць справу ўжыцьцяўляньня ідэалаў БНР, спрыяць дэмакратызацыі Рэспублікі Беларусь, мацаваньню ейнага матарыяльнага і культурнага дабрабыту, далейшаму разбудоўваньню дэмакратычнай і незалежнай Беларускай Дзяржавы.

Ант. Шукелойць
Антон Шукелайць,
Старшыня

Яго Міласьці
Сп. Янку Ханенку, Старшыні
БАЗА ў Клійленддзе, Огаё.



**BELARUSIAN CONGRESS COMMITTEE OF AMERICA**

724 WEST TANTALLON DRIVE, FORT WASHINGTON, MARYLAND 20744
PHONE: (301) - 292-2610
FAX: (301) - 292-8140

ELEVENTH
BELARUSIAN CONGRESS
OF AMERICA



25 Сакавік 1994г.

Вельмі Паважаная Спадарыня Сьвятлана Белая,
Рэдактар часапісу "Полацак"

Дарагія Суродзічы!

Беларускі Кангрэсавы Камітэт Амэрыкі вітае Вас з знамянальнаю датаю - 76-мі ўгодкамі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Апошнімі часамі сілы, варожыя беларускаму нацыянальнаму адраджэньню на нашай Бацькаўшчыне, усё больш і больш узьнімаюць свае галовы, каб задушыць палітычную й эканамічную незалежнасьць Беларусі. Яны намагаюцца павярнуць назад кола сучаснае беларускае гісторыі, зрабіць замах на жыцьцё беларусаў, як нацыі і назаўсёды абяздоліць нашую Бацькаўшчыну, ператварыўшы яе ў глухія мясьціны смутку.

Таму мы верым, што Векапомны Акт 25-га Сакавіка 1918 году згуртуе беларусаў, як на Бацькаўшчыне, гэтак і на эміграцыі на новую барацьбу за свабоду Беларусі. Няхай ня гасьне жыватворчы агеньчык волі беларускага народу! Няхай разгараецца ён нязгаснай паходняй, асьвятляючы шлях да поўнае незалежнасьці нашае любае Беларусі!

Жыве вольная і дэмакратычная Беларусь!

Міхась Сенька
Сакратар

Расьціслаў Завістовіч
Старшыня




STATE OF ILLINOIS
OFFICE OF THE GOVERNOR
CHICAGO 60601

JIM EDGAR
GOVERNOR

February 24, 1994



Dear Mr. Bielamuk:

As Governor of the State of Illinois, I would like to send my congratulations to you, the staff and readers of POLACAK as you celebrate the third anniversary of this magazine.

POLACAK has helped bring community and national news to its readers, giving them a source of common interest and information on vital issues. The service you have provided to the Bielarussian community is to be commended.

Please accept my best wishes on this anniversary.

Sincerely,

Jim Edgar
GOVERNOR

# Вобразы нашых продкаў у старажытным мастацтве

Людміла Дучыц

Яшчэ ў глыбокай старажытнасьці сярод нашых продкаў вылучаліся таленавітыя людзі—скульптары і мастакі. Аб гэтым яскрава сьведчаць матэрыялы археалягічных раскопак. Самым старажытнейшым мастацкім творам (верхні палеаліт, 40-11 тыс. год таму назад) на землях этнічнай Беларусі можна лічыць знойдзеную ў 1935 годзе каля в. Елісевічы на Браншчыне скульптурку аголенай жанчыны, якая выразана з біўня маманта. Вышыня вырабу 15 см, але галава была адламана яшчэ ў старажытнасьці.[1] Калі ў антрапаморфных выявах палеаліту дамінава ў вобраз жанчыны, то ў неаліце сустракаюцца толькі мужчынскія выявы, што зьвязана з зараджэньнем патрыярхальных родавых калектываў. III тыс да н.э. датуюцца малюнкі на костцы лася (вышыня 53 мм), знойдзенай на неалітычным пасёлішчы Азёрнае 2Б на возеры Вячэра Любанскага раёну Менскай вобласьці (мал. 1). З двух супрцьлеглых бакоў крамянёвым разцом выразаны тры выявы, две зь іх антрапаморфныя. З аднаго боку паказаны чалавек, які скача з узьнятымі рукамі. У трохпалую левую далонь упіраецца рукаятка сякеры. Галава бяз рысаў твару. Галава аздоблена арнамэнтам. Пад правай нагой выразаны ромбік з чатырма рыскамі, якія адыходзяць ад прамой. На адваротным баку косткі паказана бязрукая выява з галавой-ромбам. Ногі сагнуты ў каленях і разведзены. Археолаг М.Крывальцэвіч, які вывучаў пасяленьне Азёрнае, лічыць, што гэта выява багаабароцны й адзначае тоеснасьць знойдзеных малюнкаў найперш за ўсё з творамі балтыйскага рэгіёну.[2]



Мал. 1. Выява чалавека на косьці лася з паселішча Азярное 2

Да сярэдзіны —другой паловы III тыс. да н.э. адносіцца малюнак, знойдзены ў 1962 г. на гліняным посудзе на паселішчы Ліцвін I каля в. Юравічы Калінкавіцкага раёну Гомельскай воб. Тут схэматычна паказаны паляўнічы і побач качка (мал. 2.)[3]



Схэматычная выява чалавека на глінянай пасудзіне канца II тыс. да н.э. знойдзена на паселішчы Асавец Бешанковіцкага раёну Віцебскай воб. Яна выгравіравана ніжэй шыйкі посуда, аздобленага гарызантальнымі адбіткамі шнура. Ад другой постаці ацалелі толькі галава і рука. Малюнак выкананы ў такім-жа стылі як і юравічаскі [4]. На паселішчы Асавец археолягам М. Чарняўскім у 1966 годзе была знойдзена яшчэ скульптурка мужчыны зь ліставога дрэва (мал.3).



Тут-жа ў 1972 годзе была знойдзена мужчынская галава з рогу (мал. 4).



Рысы твару першай фігуркі выразныя, апушчаныя краі надброўя, прамы нас, высокі лоб, вусы і кароткая барада. Глыбокія вачніцы і характэрная лінія рота надаюць яму суровы выгляд. Шыя пераходзіць у схэматычна выразанае тулава бяз рук. Ніжняя частка знаходкі адламана. Другая фігурка паказвае чалавека з высокім ілбом і выцягнутым авальным тварам з вострай бародкай. Вочы зроблены ў выглядзе глыбокіх ямак. Лінія рота падкрэсьлена гарызантальным прарэзам. [5]

На тэрыторыі Усходняй Эўропы з III—IУ стст. па XII—XIII стст. быў распаўсюджаны выраб манумэнтальнай скульптуры. Гэта каменныя і драўляныя ідалы, якія звычайна рабіліся ў гонар памерлых правадыроў ці герояў і ставіліся на паганскіх капішчах. Пасьля прыняцьця хрысьціянства ідалаў пачалі спальваць, а каменных скідваць у рэкі і вазёры або закопваць у зямлю. Калі ў першыя часы пасьля прыняцьця хрысьціянства ідалаў зьнішчалі,то зь цягам часу царква стала адносіцца да паганства даволі цярпіма й імкнулася выкарыстоўваць яго ў сваіх мэтах. Здаралася,што знойдзеных ідалаў ставілі ў капліцах, на могілках, ці на скрыжаваньнях дарог замест хрысьцянскіх сьвятых.У некаторых глухіх мясьцінах ідалы дастаялі амаль да нашага часу. Наогулжа, на тэрыторыі Беларусі вядома каля трыццаці каменных ідалаў. Іх можна падразьдзяліць на 6 груп. Гэта скульптурныя выявы, асобныя галовы, стылізаваныя чалавекападобныя ідалы, крыжападобныя, шматтварыя й ідалы-слупы з высечанай зьверху галавой. Найбольш яскравымі зьяўляюцца ідалы са Шклова, Слоніма, Астрамічава Берасьцейскага, Ульянавічаў Сеньненскага раёну, з Чэрвеншчыны. Шклоўскі ідал быў знойдзены ў 1963 г. на беразе ракі Серабранкі, якая ўпадае ў Днепр. Ён ўяўляе

сабой пагрудную выяву мужчыны з добра адлюстраванымі ідывідуальнымі рысамі твару. Вышыня яго 1,2 м. Захоўваецца ідал у Нацыянальным музеі Беларусі. Слонімскі ідал (мал.5) быў знойдзены ў 1934 годзе пры пракладцы новай вуліцы на глыбіні 0, 5 м. Зроблены ён з чырвона-шэрага валуна й уяўляе сабой мужчынскі торс бяз рук. З усіх бакоў фігура рэльефная. Вышыня яе 46 см, шырыня 22 см, таўшчыня 15 см. Ніз скульптуры клінападобны. Твар плоскі, з завостранай бародкай, але без вусоў. Нос шырокі з гарбінкай. Вочы і рот выразна прашкрабаны. Ідал захоўваецца ў Слоніцкім краязнаўчым музэі.



*Мал. 5 Слонімскі ідал*

Астрамічаўскі ідал (мал.6) знойдзены таксама ў час земляных работ на глыбіні 0,6 м і мае выгляд невялікай каменнай галавы.



Мал. 6 Астрамічаўскі ідал

Ульянавічскі ідал у выглядзе слупа быў знойдзны ў лесе ў 1887 г. і затым пастаўлены на могілках. Чэрвенскі ідал меў выгляд слупа і вядома, што яшчэ нядаўна ён зафіксаваны пад назвай Цар Давыд. [6]

Для пачатку II тысячагодзьдзя можна адзначыць таксама творы дробнай пластыкі—шахматныя фігуркі і дзіцячыя цацкі. Знойдзена каля дзесьці шахматных фігурак, якія паказваюць мужчын. У Бярэсьці выяўлена фігурка цара вышынёй 46 мм. Яна паказвае знатнага воіна зь мячом ці нейкай адзнакай улады ў правай руцэ і са шчытом на левай. Фігурка ферзя з Кукомля адлюстроўвае чалавека, які сядзіць на авальнай падстаўцы, склаўшы ногі і скрыжаваўшы на грудзях рукі. З-пад круглага ўбору (шлему) зьвісаюць валасы. Падбародак выступае наперад, нос прыплюснуты. Фігурка вышынёй 25 мм, знойдзена ў Ваўкавыску, адлюстроўвае барабаншчыка. Гэта ваенны музыка XII ст., які падае сыгнал да бою. Доўгія валасы ў яго зачэсаны назад і апранута нізкая шапачка. Музыка ў доўгай падперазанай кашулі, на нагах боты. Зь пляча на шырокай істужцы зьвісае бубен. У правай руцэ барабаншчыка ўзьнятая ўверх загнутая на канцы палка. З Ваўкавыску і Гародні вядомы

яшчэ ладзьдзі зь людзьмі.[7] Цікавая шахматная фігурка караля знойдзеня ў Слуцку.[8] Па манэры выкананьня блізкі да шахматных фігурак выраб XII ст. з Наваградка. Гэта металічнае вастрыё, на версе якога выява музыкі, што грае на струнным шчыпковым інструменьце. Музыка паказаны ў доўгай кашулі й у шапачцы. [9]

Цэлая галерэя малюнкаў у 1977-1978 гг. знойдзена на гарадзішчы XI—XIII стст. каля в. Маскавічы паблізу Браслава Віцебскай вобласьці. Зробленыя яны на костках жывёл (мал.7). Вылучаюцца 25 найбольш выразных малюнкаў, якія падразьдзяляюцца на тры групы: выразныя выявы людзей, абстрагіраваныя малюнкі і кампазыцыйныя.

Першая група прадстаўлена 8 малюнкамі. Гэта выява чалавека з мячом у правай руцэ і з каронай на галаве (мал.7, №2).



Два малюнкі з выявай лучніка (напрыклад, мал. 7, №6).



Ёсьць чатыры партрэты воіна ў кальчузе ці панцыры й у шлеме. На адным з партрэтаў над галавой воіна паказаны крыж на ланцужку (мал.7, №4). Ёсьць выява аголенай жанчыны (мал. 7, №5).





Як вядома, у XII—XIII стст. для эўрапейскага мастацтва яшчэ не характэрны аголеныя фігуры і лічыцца, што аголенымі паказвалі толькі вядзьмарак. Варта адзначыць, што ў Полацку ў 1968 годзе ў слаі першай паловы XIII ст. знойдзена скульптурка аголенай жанчыны. [10] Гэтыя знаходкі, хутчэй за ўсе зьвязаны зь нейкімі культамі. Да другой групы маскавіцкіх малюнкаў адносяцца 2 абстрактных вывы людзей. На трох касьцях паказаны чалавек зь мячом у правай руцэ, на двух — зь мячом у левай руцэ, яшчэ на адной—чалавек у лодцы. Ёсьць выява двух чалавек, адзін з каторых знаходзіцца на беразе, а другі ў лодцы. На чатырох малюнках паказаны чалавек з распрасьцёртымі рукамі. На ўсіх малюнках гэтай групы выявы непрапарцыянальныя і невыразныя. Тулава і галава паказаны кружочкамі ці авалам, а рукі і ногі лініямі. Да трэцяй групы адносяцца кампазыцыйныя

малюнкі на 6 костках. На адным зь іх паказаны воін у баявой позе. Ён у кальчузе і шлеме, зь мячом у правай руцэ і міндалепадобным шчытом у левай. На заднім плане лодка. Недалёка яшчэ адзін воін у шлеме (мал. 7 №7).

Костка з малюнакмі з двух бакоў знойдзена і на суседнім з Маскавічамі гарадзішчы каля в. Рацюнкі. Тут з аднаго боку схэматычна паказаны чалавек з разьведзенымі ў бакі рукамі, на якіх вылучаюцца па пяць пальцаў.



Другі малюнак паказвае трохкутнік са знакам трызубца і справа парусную лодку з чалавекам на карме (мал. 7, №3).



На адной з костак выявы двух дружыньнікаў, якія бьюцца мячамі. Ёсьць малюнак, дзе бачны натоўп людзей. Вылучаецца сюжэт з лодкай, у якой стаяць два чалавекі з распрасьцёртымі рукамі і справа ад іх натоўп людзей. У цэнтры паміж натоўпам і лодкай крыж, на канцах і ў сярэдзіне якога разьмешчаны трохкутнікі (мал.7, №1).



Верагодна, гэты сюжэт трэба трактаваць як сустрэчу прыплыўшых.

На галаве тры стрыжні. На адва-ротным баку схэматычная выява вершніка. Трэба меркаваць, што на ўсіх гэтых малюн-ках адлюстраваны мясцовыя падзеі.[11]

Падобны маскавіцкім малюнак знойдзены ў Бярэсьці на плоскай вапнай пласьцінцы памерам 8х10 см. Гэта разная паясная выява воіна ў пласьцінчатым панцыры і ў востраканечным шлеме, з круглым шчытом у левай руцэ і мячом ў правай. [12]

У больш позьнія часы (ХУІ—ХУІІІ стст.) выявы людзей сярод археалягічнага матэрыялу можна сустрэць на кафлі або на камянях. Напрыклад, на кафлі з Гродзенскага замку паказаны дзьве асобы ў тыпова рэнесансавым адзеньні.

Адзін зь іх стаіць тварам да нас, а другі прыпаў на адно калена й у руках якога, рэчы, якія нагадваюць атрыбуты каралеўскай улады. Падобная кафля знойдзена і ў Менску. [13]

Да ХУІІ ст. адносіцца яшчэ адна цікавая кафля зь Менску ,на ёй паказана шляхетная пара: вусаты мужчына ў шляпе зь пяром і з кароткім мячом у руках і жанчына ў багатай сукенцы і галаўным уборы накшталт намíткі (мал.8) [14]

Барэльефная выява чалавека вядома на надмагільлі каля в. Стража Кіраўскага раё-

ну Магілёўскага воб. Гэта партрэт нябошчыка. Ён паказаны ў даўгаполым жупане з гузікамі і з поясам. На галаве шапка, на нагах боты. Менавіта так у ХУІІ—ХУІІІ стст. апраналася беларуская шляхта. Рукі сагнуты ў лакцях і далонямі на поясе. Рысы твару даволі выразныя.[15]




Мал. 8.
Непаліваная кафля пачатку ХУІІ ст. г. Менск.
Раскопкі 3. Пазьняка

## Бібліяграфія


1. Гісторыя беларускага мастацтва. Мн., 1987, т.1 с. 16-17

2 Крывальцэвіч Мікалай. Самае найстаражытнае —Мастацтва, Мн., 1993, №5, с.70-71.

3 Усаенко В.Ф. Неолитический сосуд с рисунками из Белоруссии — Советская археология. М.,1971, №2, с. 211-213.

4. Гісторыя беларускага мастацтва. Мн. 1987, т.1, с. 27-28.

5 Чарняўскі М.М.Вобраз чалавека ў найстаражытнейшым мастацтве // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн., 1973. №4, с. 24-26. Гісторыя беларускага мастацтва. т. 1. Мн. 1987, с .19, 22,21.

6 Мялешка М. Камень у вераваньнях і паданнях беларуса // Запіскі аддзела гуманітарных навук. Кн. ІУ. Працы кафедры этнаграфіі, т. 1 Мн. 1928. с. 155-182; Дучыц Л.У. Зьвесткі аб язычніцкіх ідалах на тэрыторыі Беларусі. /Весці АН БССР. Серыя грамадзкіх навук. Мн.,1990, №6, с. 87-91

7 Пластыка Беларусі ХІІ—ХУІІІ стст. Мн. 1983, Гісторыя беларускага мастацтва Мн.,1987, т. 1. 1987 с. 99-102.

8 Калядзінскі Лявон. Кароль са Слуцку / «Полацак», Кліўленд, 1993, №8 (28), С. 19.

9 Гісторыя беларускага мастацтва т. 1. Мн. 1987 с. 101.

10 Штыхов Г.В.Работы Полоцкой экспедиции // Археологичские открытия 1967 года. М. 1967 с. 255

11 Дучыц Л.У. Браслаўскае Паазер'е у ІХ—ХІУ стст. / гісторыка архелагічны нарыс/ Мн. 1991, с. 80

12 Лысенко П. Ф. Берестье. Мн. 1985, с. 389, мал. 259

13 Трусаў Алег. Кафля з раскопак на Старым замку ў Гродне. //«Спадчына» ,1992 №6, с. 63-67.

14 Штыхов Г.В. Заяц Ю.А. Позняк З.С. Исследования в Минске и его округе — Археологические открытия 1986 . М. 386-387.

15 Дучиц Л. Обследование культовых камней и каменных крестов на территории Белоруссии. — Археологические открытия 1984 года. М. 1986.с.341.




# Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў

Міхась Белямук

## Гомельская вобласьць

***Глыбоцкае, Гомельскі р-н***

У 1883 г.ва ўрочышчы «Струпава» на беразе р. Немыльня знаходзіцца гарадзішча. На ім сялянская дзяўчынка прыпадкова знайшла вялізны скраб сярэбраных манэтаў і аздобаў. Скраб быў у скураным мяшку, які збуцьвеў і манэты рассыпаліся. Манэтаў было «более четверика (около двух ведер)». Манэты сяляне пазьбіралі і разабралі. А. Маркаў у «Тапаграфіі» паведамляе, што «прыехавшему скоро становому приставу удалось найти только 79 монет, которые и были представлены в Имп. Археологическую Комиссию».Лічба 79 манэт фігуруе ў нумізматычнай літаратуры, але яна недакладная. В. Рабцэвіч праверыў архівы і паведаміў нас, што ён адшукаў ліст за 9 лютага 1884 г. Н.П. Барсава да А.А. Куніка: «студентам Варшавского университета А. Бжезинским собраны монеты (колькасьць не назвываецца) из клада найденного в 1883 г...недалеко от Гомеля. Судя по количеству монет находка может иметь серьезный интерес». В.Рабцэвіч адшукаў яшчэ адзін ліст ад 1 красавіка 1884 г., у каторым ізноў пішацца аб «находке близ Гомеля в 1883 г. клада мусульманских монет».Рабцэвіч робіць выснову на падставе гэтых лістоў, што «Археалагічная камісія атрымала няведамую нам колькасьць дыргемаў з Глыбоцкага скарбу».

Паводля А. Маркава, Г.Корзухінай, Г.Салаўёвай ды іншых—77 дыргемы Арх. Камісія перадала ў Эрмітаж, а 2 дыргемы ў Музэй Магілёўскага губэрнскага статыстычнага камітэту. В.Рабцэвіч праверыў манэты Глыбоцкага скарбу ў Эрмітажы й аказалася, што іх там 85, а не 77, і, дзякуючы ягонай ветлівасьці, мы даем апісаньне манэт у Эрмітажы.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | Андараба | Іран | 892-906/7 | Ісмаіл ібн Ахмад | 8 |
| " | Балх | Афганістан | 902-905/6 | Ісмаіл ібн Ахмад | 3 |
| " | Нісабур | Іран | 902-907/8 | Ісмаіл ібн Ахмад | 2 |
| " | Самарканд | Узбекістан | 903-906/7 | Ісмаіл ібн Ахмад | 6 |
| " | аш-Шаш (Ташкент) | Узбекістан | 895-906/7 | Ісмаіл ібн Ахмад | 28 |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 907/8 | Ісмаіл ібн Ахмад або Ахмад ібн Ісаміл | 2 |
| " | ал-Біяр | Іран | 910/1 | Ахмад ібн Ісмаіл | 1 |
| " | Самарканд | Узбекістан | 909-911/2 | Ахмад ібн Ісаміл | 5 |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 908-911/2 | Ахмад ібн Ісаміл | 22 |
| **Саманіды** | сьцёртыя, амаль не чытальныя дыргемы | | | | 8 |

У Магілёў былі пасланыя два дыргемы:

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| **Саманіды** | аш-Шаш | Узбекістан | 896/7 | Ісмаіл ібн Ахмад | 1 |
| " | аш-Шаш | Узбекістан | 910/1 | Ахмад ібн Ісмаіл | 1 |

Аздобы людзі разабралі і ня зьвярнулі, толькі казалі, што былі каралі, зь сярэбранымі трубачкамі паміж пацеркамі.

Марков б.26-27, №144 Корзухина, б.92-93, №36, Соловьева б.59, №37
Штыхов [2] б.99, №125 Поболь [2] б.240, №171 ЗПГКБ Гом.вобл. б.135, №512



*Працяг. Пачатак у №6(16), 1992—1(31), 1994*

***Гомель***

У 1822 г. падчас пабудовы маста з Гомеля ў Нову Беліцу быў знойдзены скарб арабскіх дыргемаў. У Маскве ў Румянцаўскім музэі з гэтага скарбу перахоўвалася 82 дыртгемы. Дакладнага апісаньня манэтаў няма, але вядома, што гэта дыргемы дынастыі Саманідаў чаканеныя ў Андараба (Іран) 906/7 г., Балх /Афганістан/ 934/5 г., ал-Біяр (Іран) 910—11, Самарканд (Узбекістан) 896-938/9 гг., аш-Шаш (Узбекістан) 899—938/9 гг.

*Григорьев б.137, №68* *Савельев б. 25, №16,* *Марков б.25, №140,*
*Янин б.14,* *Штыхов, Лысенко б.130*

***Гомель***

Год знойдзеньня арабскага дыргема дакладна ня ведамы,але прыслалі яго В. Рабцэвічу ў 1987 г. для расчытаньня. Дыргем Саманідаў чаканены ў Самарканьдзе (Узбекістане) 900 г. Ізмаіл ібн Ахмадам.

*Рабцэвіч [6] б.130*

***Гомельскі уезд***

У 1897 г. Е. Раманаў, падчас раскопкаў кургана на беразе р. Уза, знайшоў дыргем Саманідаў , чаканены ў аш-Шаш (Ташкент) 932 г. Насрам ібн Ахмадам.

*Марков б.139, №17* *Рабцэвіч [6] б.2, №30*

***Гомельская вобл.***

У 1891 -1893 гг. В.Антановіч праводзіў раскопкі курганоў каля вёскаў Аднапольле, Навасёлкі, Радуга (Веткаўскі р-н), Чабатовічы (Буда-Кашалёўскі р-н), Бердыж, Турашчавічы (Чачэрскі р-н) і каля Чачэрска. У курганах (мясцовасьць не называецца) былі знойдзеныя «5 медальонов, сделаных из восточных саманидских дирхемов, первой половины X ст». Такім чынам, гутарка ідзе аб арабскіх манэтах, выкарыстаных за аздобы-падвескі. Манэты аддалі ў гістарычны музэй у Маскву і ў музэй унівэрсытэту сьв. Уладзімера ў Кіеў.

*Смогродский б.21,* *Отчет Имп. Археологической Комиссии, 1893, б.11,*
*Рабцэвіч[6] б.2, №29* *Соловьева б..59, № 41,* *Спицын [3] б.120-121,* ***Gumowski*** *[2] б.61*

***Гомельскі р-н***

У 1926 г. загадчык гомельскага музэя М. Папоў паведаміў Р. Фасмера, што на беразе р. Узы знайшлі дыргем Саманідаў, чаканены ў Самарканьдзе 904/6 г. Ісмаілам ібн Ахмадам.

*Фасмер б.290, №46*

***Гута, Рагачоўскі р-н***

Каля 1900 г. М.М.Філонаў у 1910 г. Е. Раманаў дасьледвалі курганы могільнік. Яны раскапалі 6 курганоў, дзе былі знойдзеныя сярэбраныя скранёвыя кольцы, колькасьць не названая.

*ЗПГКБ. Гомель. вобл. б. 295, № 1559*

*Дзям'янкі, Добрушскі р-н*

У 1962-1963 гг. Г .Ф. Салаўёва раскапала 31 курган, дзе былі знойдзены: манэта, імітацыя манэтаў і аздобы. У кургане №11 на грудзі пакойніцы ляжала сярэбраная манэта, арабскі дыргем Саманідаў, чаканены ў Самарканьдзе ў 911/2 г. Ахмадам ібн Ісмаілам. Дыргем меў вушка, выкарыстоўваўся за падвеску-аздобу. У кургане №8 былі знойдзеня 6 манэтападобныя падвескі, яны зь нізкапробнага серабра імітуючыя арабскія дыргемы Саманідаў. Таксама знайшлі шклозалочаныя і шклосярэбраныя паперкі, але няведама колькі. У кургане №3 каля пакойніцы ляжала 130 шклосярэбраныя і шклозалочаныя пацеркі. У курганах №№4,10, 12, 14, 20, 28 былі сярэбраныя аздобы: шклосярэбраныя і шклозалочаныя пацеркі, 4 скранёвыя сяміканцовыя падвескі, рубчаты пярсьцёнак і 4 пласьціністыя пярсьцёнкі.

*Соловьева [5] б.190-192, 194-197 і малюнкі 4, №5,6,9,10, мал. 5, №4,5.*
*Яніцкая б.142-143, №69, Равдина б.50, №62*

*Дзяніскавічы, Жлобінскі р-н*

У 1975 г. В. Багамольнікаў, А. Касалапаў і В.Тарабей раскапалі 4 курганы і знайшлі ў курганах шклозалочаныя пацеркі з XI ст.

*Богомольников, Косолапов, Тарабей б.416*

*Добруш*

У 1910 г. М.М. Філонаў ва ўрочышчы Баравое Балота раскапаў 6 курганоў, знайшоў пры пакойніцах шклозалочаныя пацеркі і адзін сярэбраны пярсьцёнак. Каля Добруш знаходзіцца курганны могільнік ва ўрочышчы Ракітня. М. Філонаў з Е. Раманавым у 1910 г. раскапалі 5 курганоў і знайшлі адну шклосярэбраную пацерку.

*Романов [5] б.124 Соловьева б.60, №51 Штыхов [2] б.102, № 165,*
*Яніцкая б.143, №72 ЗПГКБ Гомель, б. 148, № 595*

*Жгунь, Добрушскі р-н*

У 1892 г. Е. Раманаў раскапаў курган і знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

*Яніцкая б. 128, № 10*

*Журавічы, Рагачоўскі р-н*

Каля 1890 г. Е.Раманаў раскапаў курган і знайшоў сярэбраныя завушніцы і шклозалочаныя пацеркі.

*Яніцкая б. 128, №11*

*Задруцьце. Рагачоўскі р-н*

У 1893 г. прыпадкова на беразе р. Дняпра знайшлі гліняны жбан зь сярэбранымі зьліткамі, якія называлі ў XII—XIII стст. грыўнамі. Археолягічная Камісыя атрымала з гэтага скрабу 92 грыўны кіеўскага тыпу. Атрыманыя Камісыяй зьліткі важылі 14500 гр. і быў гэта адзін з найбольшых знойдзеных скарбаў. Зьліткі былі разасланыя ў розныя музэі Масквы, атрымалі музэі ў Адэсе, Арле, Берліне, Ноўгарадзе, Кіеве, Разані,

Херсанэсе, Сант-Пецярбурзе і прыслалі ў ЗША у Пітсбург. Узнагародзілі зьліткамі царскіх саноўнікаў, але ніводнага зьлітка не атрымала Беларусь.

*Ильин б.36, №150 Медведев б.111, №112 Сотникова, Спасский [2] б.55, №18 зб. Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі, Мн.1979, б. 83*

***Залесьсе, Чачэрскі р-н***

У канцы мунулага стагодзьдзя У.Антановіч на левым беразе р. Сож раскапаў некалькі курганоў. У курганах былі знойдзеныя сярэбраныя аздобы. Е. Раманаў інфармуе, што аздобы вёскі Залесьсе такія-ж якія былі знойдзеныя ў курганах вёскі Чатабовічы . Такім чынам, мы прыпушчаем, што ў курганах вёскі Залесьсе былі знойдзеныя сярэбраныя скранёвыя сяміканцовыя кольцы і шклозалочаныя пацеркі.

*Романов [5] б.124*

***Збараў, Рагачоўскі р-н***

У 1967 г. Г.Ф; Салаўёва дасьледывала гарадзішча і знайшла некалькі сярэбраных пярсьцёнкаў.

*Соловьева [6] б.111-112*

***Збараў, Рагачоўскі р-н***

У 1968 г. Г.Ф. Салаўёва паведаміла, што на тым-жа гарадзішчы знайшла 4 сярэбраныя манэтападобныя падвескі й арабскі дыргем з вушкам. Усе знойдзеныя рэчы былі пераказаныя ў мясцовы краязнаўчы школьны музэй. Пара год пазьней збараўскі школьны музэй пераслаў В.Рабцэвічу знойдзеныя ў 1968 г. маністы й арабскі дыргем. В.Рабцэвіч разглядзеў прысланыя аздобы. Ён знайшоў 6 манетападобных падвесак, не 4 як раней паведамлялася. Арабскі дыргем ён часткова змог расчытаць. Ён ёсьць Саманідаў Нух ібн Наср з 943—954 г., манетніцу Рабцэвіч ня змог расчытаць.

*Рабцэвіч, Стуканаў б. 38, №20, ЗПГКБ Гомель, б. 299, № 1580*
*Равдина б.61-62, №80 Рабцэвіч [8] б.5, № 55 А*

***Каласы, Рагачоўскі р-н***

У 1892 г. М. Фурсаў з С. Чалоўскім раскапалі 3 курганы і знайшлі на руцэ пакойніцы сярэбраны бранзалет.

*Каваленя б.148*

***Каласы, Рагачоўскі р-н***

У 1976 г. А. Мітрафанаў раскапаў 4 курганы, знайшоў пры пакойніцы сярэбраныя бранзалет зьвіты з дроту і пярсьцёнак. У 1982 г. В.Рабцэвіч з А. Плавінскім раскапалі 14 курганоў і знайшлі скранёвыя сярэбраныя кольцы, пацеркі сярэбраныя, аздобленыя зерню і пацеркі шклосярэбраныя і шклозалочаныя.

*Рябцевіч [9] б. 369 ЗПГКБ Гомель. б. 299-300, № 1587*

***Камаровічы, Петрыкаўскі р-н***

У 1889 г. У. Завітневіч раскпаў 25 курганоў з XI—XII ст. знайшоў ён сярэбраны пярсьцёнак і 19 буйных шклосярэбраных пацерак.

Яніцкая б.143, №78

***Камень, Рагачоўскі р-н***

У 1888 г. Е. Раманаў раскапаў 4 курганы ў фальварку Пятроўка каля р. Нецеша. У адным кургане знайшоў сярэбраны зь вітага дроту пярсьцёнак.

*Романов [5] б. 126*

***Касалякі, Кармянскі р-н***

9 жніўня 1954 г. В.Юрачкін знайшоў скарб на размытай лясной дарожцы прыблізна 500 метраў на паўночны захад ад вёскі Касалякі, не вёска Літвінавічы, як адзначана ў справаздачах А. Мельнікавай, У. Крапоткіна, В.Яніна. Б.Рабцэвіч асабіста езьдзіў дасьледваць месца знойдзеньня скарбу, і мы ягоныя інфармацыі выкарыстоўваем, Паводля В. Рабцэвіча манэтаў было «гораздо больше, чем 99 монет». Манэты знойдзеныя В.Юрачкіным, былі складзеныя ў слупок і ня мелі ўпакоўкі. Такая інфармацыя В.Юрачкіна непераканаўчая. Праўдападобна манэты былі абгорнутыя і закапаныя ў зямлю, але ўпакоўка збуцьвела.

Людзі разабралі манэты, зьбераглося, дзякуючы В.Рабцэвічу 45. Яны ёсьць арабскімі дыргемамі Абасыдаў, у ліку іх адзін дыргем Тагрыдаў Тальхі ібн Тагір з 823/4 г. Найстарэйшая манэта ёсьць з 750 г. ас-Сафага. Наймаладзейшая манэта ёсьць ал-Мамуна з 815/6 г. У Дзяржаўны гістарычны музэй у Маскву паслалі 41 дыргем. Беларускі дзяржаўны музэй атрымаў 4 дыргемы, яны абасыдзкія каліфа ар-Рашіда, чаканеныя ў Багдадзе 802/3, 807/7, 808/9 гг., таксама каліфа ал-Мансура— у ал-Басра 760/1 г.

*Мельникова б.148, №3,* *Янін б. 90, 92,* *Кропоткин б. 93 , 178*

*Рабцэвіч, Стуканаў б. 35, 38, №18,* *Рабцэвіч [8] б. 2, №48*

***Курганьне, Жлобінскі р-н***

У 1972 г. У. Багамольнікаў раскапаў 7 курганоў. У адным кургане знайшоў арабскі дыргем, які меў вушка, выкарыстоўваўся за падвеску. У другім кургане былі знойдзеныя 16 шклозалочаныя пацеркі. Раўдзіна Т. піша, што ў кургане №3 дыргем быў Саманідаў з аш-Шаш 912/914 г. Ахмад ібн Ісмаіла.

У 1973 г. У.Багамольнікаў ізноў раскапываў курганы і знайшоў арабскі дыргем з вушкам. Знайшоў бронзавыя аздобы як бляшку, крыжык і спражку ,зь сьлядамі сярэбранай інкрустацыі.

У 1974 г. У. Багамольнікаў раскапаў 19 курганоў, у курганах з жаночымі пахаваньнямі знаходзіў шклосярэбраныя і шклозалочаныя пацеркі, колькасьць іх невядомая.

У 1976 г. У Багамольнікаў у кургане з жаночым пахаваньнем знайшоў шклозалочаныя пацеркі.

В.Рабцэвіч у лісьце павядоміў, што У. Багамольнікаў адзін з знойдзеных арабскіх дыргемаў паказаў В.Рабцэвічу, і ён мог часткова расчытаць дыргем, які меў сярэбранае

дарobленае вушка і быў пашкоджаны агнём. Дыргем дынастыі Саманідаў Нух ібн Насра 942—955 гг. Манэтніцу В.Рабцэвіч ня змог расчытаць.

*Богомольников б. 369-370, Богомольников [2] б. 382 Богомольников [3] б. 400 Богомольников [4] б.40 Богомольников, Косолапов, Тарабей б. 415*

*Яніцкая б.144 № 81 Рабцэвіч [8] б. 3. №49 Равдина б. 79, №113*

***Левашы, Рэчыцкі р-н***

У 1890 г. У.Завітневіч ва ўрочышчы Казакоў Сад раскапаў курганы і знайшоў арабскі дыргем Саманідаў, чаканены ў Самарканьдзе Мансур ібн Нухам 961—976 гг. Другая манэта з кургана была імітацыяй саманідзкім дыргемам Наср ібн Ахмада. Таксама былі знойдзеныя 2 сярэбраныя пацеркі й адна сярэбраная луньніца.

У 1890 г. У Завітневіч каля вёскі Левашы ва ўрочышчы Заўжэльле таксама раскапаў некалькі курганоў. У кургане з жаночым пахаваньнем знайшоў (інфармацыя В.Рабцэвіча) «3 медальона». Гэта значыць, што манэты выкарыстоўваліся за падвескі. Адна манэта была дыргемам Саманідаў Наср ібн Ахмада 914—943 гг. Манэтніца нерасчытаная. Другая манэта, паводля В.В. Крапоткіна, бізантыйская Канстантына УІІ і Рамана ІІ, але В.Рабцэвіч не згаджаецца. Ён уважае, што бізантыйская сярэбраная манэта ёсьць імпэратара Канстантына УІІ Парфірароднага з 945-959 г. Трэці медальон прапаў.

У нумізматычнай літаратуры называецца «Казакоў Сад і Заўжэльле», але гэта ўрочышчы каля вёскі Левашы, дзеля гэтага мы зрабілі папраўку.

*Марков б. 24 , №137, Кропоткин [3] б. 38, №300, Рабцэвіч [8] б.2. №38*

***Лоеў.***

У 1890 г. У. Завітневіч раскапаў 15 курганаў каля горада і знайшоў пры жаночых пахаваньнях шклозалочаныя пацеркі.

*Русанова [2] б. 28, №10*

***Лучын, Рагачоўскі р-н***

У 1896 г. і1905 г. Е.Раманаў недалёка сутокі Друці ў Днепр раскапываў курганы. У адным кургане з жаночым пахаваньнем знайшоў 6 сярэбраных кольцаў крывіцкага тыпу. Раманаў дадаткова паведамляе, што каля Лучына былі «Знойдзеныя вялікакняжныя сярэбраныя рублі кіеўскага пэрыяду, была знойдзена шкатулка з скарбам сярэбраных грыўнаў, бранзалетаў, завушнічкаў». Р.Рабцэвіч у лісьце кажа: «Гэтая інфармацыя пацьвярджаецца дадзенымі архіва Археалагічнай Камісіі».

*Романов [6] б.9 Штыхов, Лысенко б. 128, Камароў б. 57, Рабцэвіч [8] б.3*

## Бібліягряфія

Полацак №18 Григорьев, Кропоткин [2], Марков, Поболь [2], Рабцэвіч і Стуканаў, Рябцевич, Савельев, Фасмер, Яніцкая

Полацак №19 Шыхов [2], Янин

Полацак №21 Ильин, Корзухина, Кропоткин [3] , Сотникова и Спасский

Полацак №22 Равдина

Полацак №31 Романов [5], Соловьева

Gumowski M. Numizmatyka Litewska wiekow srednich-- "Wiadomosci numizmatyczno-archeologiczne. K. 1920, №7-12

Богомольников В. Обследование курганов в Жлобинском районе. —АО за 1973 г. М., 1974

Богомольников В.[2] Работы в Жлобинском районе, — АО за 1974 г. М., 1975.

Богомольников В. [3] Продолжение раскопок у дер.Курганне. —АО за 1976 г. М.,1977 г.

Багамольнікаў У.[4] Курганы каля вёскі Курганне —Помнікі гіс. культ. Беларусі. Мн., 1976, №1

Богомольников В. Косолапов А., Таробей В. Раскопки курганов у дер. Курганне и Денисковичи. —АО за 1975 г. М. 1976

Каваленя А. Археалагічныя разведкі ў Магілёўскай, Бабруйскай і Менскай округах. —Запіскі аддзела гуманітарных навук Бел. Ак. навук. кн. 2, Працы археалагічнай камісіі. Мн. 1930, т.2

Камароў М. Дарогамі сівой даўніны. —Помнікі гіст. і культ. Беларусі. Мн. 1973, №3

Медведев А. Ф. О Новгордских гривнах серебра. —Сов. археология М., 1963, №2

Мельникова А.С. Клады монет —КСИИМК, М., 1957, № 67

Плавінскі А. [3] Курганная група —Помнікі гіст. і культ. Беларусі. Мн., 1983, №4

Романов Е.Р.[6] Археологические разведки в Могилевской губ.—Записки северо-западного отдела Рус.географ. общества. Вильна. 1912, кн.3

Рабцэвіч В. [8] Заўвагі, папраўкі, дапаўненні прысланыя М. Белямуку—Гомельская вобласьць

Рябцевич В. [9] Раскопки могильника у дер. Колосы. —АО за 1982, М. 1984

Русанава И.П. [2] Курганы полян Х—ХI вв. (Свод археологических источников). Вып. Е I-24, М.1966

Соловьева Г.Ф. [5] Славянские курганы близ Демянки —СА М. 1967, №1

Соловьева Г.Ф. [6] Замок рогачівських князів. —зб. Слов'яно-руські старожитності. Київ 1969

Соловьвева Г.Ф. [7] Радимическая экспедиция. —АО за 1967 г. М. 1968

Сморгродский А. П. Девятый археологическийч сьезд в Вильно. 1893 г.

Спицын А. А. [3] Обозрение некоторых губерний в археологическом отношении. —Записки Рус. археологического общества. (ЗРАО) Спб. 1896, т.VIII.

Штыхов Г., Лысенко П. Поднепровские и Посожские города восточной Белоруссии. —Зб. Очерки по археологии Белоруссии. Мн., 1972, ч.2.




1. Зьвіток-грыўна XII ст. Кіеўскага тыпу в. Задруцьце. 2. Бізантыйская манэта Канстантына УII, 945-959 гг. 3.Аздобы в. Дзямянкі 4.Сярэбраныя аздобы з в.Каласы

# Маркі БНР

Віталі Кажан

Ідэя выданьня марак БНР нарадзілася ў канцы саракавых гадоў у Парыжы, дзе ў той час пражываў старшыня Рады БНР Мікола Абрамчык і ягоныя паплечнікі Лявон Рыдлеўскі й Уладыслаў Шыманец. Пасьля заканчэньня II сусьветнай вайны Рада БНР пад кіраўніцтвам М. Абрамчыка пачала актыўную працу сярод беларускай эміграцыі. Кожная грамадзка-палітычная дзейнасьць патрабуе фінансавых сродкаў. Таму была надзея, што праз выданьне і распаўсюджваньне гэтых марак каса БНР будзе мецьнейкі прыбытак.

Калі ідэя выдачы марак была зацьверджана, адразу пачалася праца над яе ажыцьцяўленьнем. Трэба было вырашыць, хто выканае праект марак, дзе яны будуць друкавацца. Было пастаноўлена выдаць маркі ў дзьвюх сэрыях. Першая сэрыя складалася з трох марак, а менавіта: дзьве ў памяць папярэдніх Прэзыдэнтаў БНР— Пётры Крычэўскага і Васіля Захаркі, трэцяя —Дом Рады БНР у Менску.Першы праект марак рабіў украінскі графік, але ягоная праца не была прынятая. Канчатковы праект выкананы У.Шыманцом,быў прыняты зь некаторымі папраўкамі. У другую сэрыю ўваходзілі дзьве маркі: «Пагоня» і «Беларусь» (карта). Графічнае выкананьне зрабіў У. Шыманец.

Загатоўку клішэ і друкаваньне марак выканаў скарбнік Рады БНР Віталі Кажан.

Першая сэрыя марак (Крычэўскі, Захарка і Дом) былі надрукаваны і высланы ў пачатку 1950 г. у краіны, дзе ўжо была пэўная колькасьць нашых людзей: у Англію, Бэльгію, Францыю, ЗША, Канаду, Аўстралію, Аргентыну, дзе жылі прадстаўнікі Рады БНР. Разам з маркамі была выслана «Кніжачка Беларускага Эмігранта», якую падрыхтаваў і выдаў у Парыжы У.Шыманец. Праводзілася праца, каб кожны беларус,а перадусім кожны прыхільнік БНР, меў такую кніжачку, купляў маркі й уклейваў іх у яе.Акрамя таго ў спэцыяльным звароце рэкамэндавалася, каб, высылаючы віншаваньні з нагоды 25 Сакавіка, наклейваць маркі БНР на канвэрты ці віншаваньні і нават на звычайныя лісты.

Усе ідэі былі добрыя, але ў жыцьцёвай практыцы аказаліся нялёгкімі да выкананьня.«Кніжачка» магла быць выкарыстаная ў лягеры ДП, дзе ўсе жылі ў адным асяродку.Але як зрабіць,напрыклад, у Аўстраліі, дзе часта сябра ад сябры жыў у адлегласьці 50 км ці больш? У пачатку 50-х гадоў, калі людзі масава пачалі пакідаць лягеры ДП у Нямеччыне, выяжджалі ў розныя краіны вольнага сьвету. Таму маркі БНР адыйшлі на бок, а на іх месцы пачалі зьяўляцца лісты ды просьбы-звароты.

Арыгінальныя клішэ марак, а таксама пэўная колькасьць марак перахоўваецца ў скарбінка Рады БНР.



IV.

№ 57/1949

Oberbayerische Druckerei
G. m. b. H., Rosenheim, Rathausstraße 4, Telefon 1177

Bitte nicht verwechseln mit Obb. Volksblatt G. m. b. H., Rosenheim

Bankverbindungen:
Bayer. Hyp. u. Wechsel-Bank Rosenheim
Bayer. Staatsbank Rosenheim
Sparkasse Rosenheim
Postscheck-Konto: München Nr. 52982

Rechnung Herrn
Kaz'an Vitaly
hier Pionierkaserne

Den 15.Dez.1949

| Die Nummer der Überweisung bitte angeben | | | |
|---|---|---|---|
| 3382 | 8 x 5.000 Briefmarken | DM 73. | 60 |
| Калёры<br>Крыжанкі — x 2<br>Загадка — x 3<br>Дом Рады — x 3 | Betrag am 15.12.49 dankend erhalten.<br>Oberbayerische Druckerei | | |

In dem Betrag dieser Rechnung sind DM —.— Transportkosten enthalten

Zahlbar innerhalb 4 Wochen ohne Abzug

Nur von uns schriftlich Bevollmächtigte sind berechtigt, Gelder einzukassieren. Gerichtsstand und Erfüllungsort für beide Teile ist Rosenheim

VII

№ 51/1950

QUITTUNG

DM Dreißig

von

für 2 x 5000 Briefmarken

richtig erhalten zu haben, bescheinigt hiermit

Rosenheim, den 1.7. 1950

Für DM 30.—

Пагоня
Дом Рады

OBERBAYERISCHE DRUCKEREI
G. m. b. H.
Rosenheim, Rathausstraße 4
Scharer

Рахункі друкаваньня маркаў

# Лёс і даты жыцьця братоў Гарэцкіх

Радзім Гарэцкі



*Браты Гаўрыла і Максім Гарэцкія*

*У мінулым годзе мы ўрачыста спраўлялі 100-годзьдзе з дня нараджэньня беларускага патрыёта, пісьменьніка Максіма Гарэцкага. 10 лютага гэта году пойдзе 56 год з дня яго смерці. Ва ўсіх пакаленьнях савецкіх людзей жыцьцё не было лёгкім, але асабліва цяжкі лёс напаткаў тое пакаленьне, да якога належыў Максім Гарэцкі. Загляніце ў музей беларускай літаратуры—гэта музэй пакутнікаў. І ў гэтым музэі адно зь вядучых месцаў па праву належыць Максіму Гарэцкаму. Прапаноўваем увазе чытачоў артыкул акадэміка Радзіма Гарэцкага, прэзыдэнта Згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», у якім ён супыняецца на шэрагу пераломных momантаў жыцьця ягонага дзядзькі (а часткова і бацькі) і зьвяртае ўвагу на параўнаньне некаторых лёсавызначальных дат.*

У ліпені 1914 г. М.Гарэцкі быў залічаны салдатам у армію й адразу трапіў на фронт Першай сусьветнай вайны ў якасьці разьведчыка і сувязіста артылерыйскай батарэі. Ужо ў кастрычніку ён быў цяжка паранены. Затым лячыўся, вучыўся ў ваенным вучылішчы, зноў быў на фроньце, хварэў і г.д. У арміі прабыў аж да 1917 г. Як пісаў у «Камароўскай хроніцы»:«Але чатыры гады жыцьця прапала».

У ноч з 19 на 20 студзеня 1922 г. М.Гарэцкі быў арыштаваны польскімі ўладамі і пасаджаны ў адзіночку віленскай турмы Лукішкі.Два тыдні сядзеў без допыту, а потым атрымаў абвінавачваньне ў прыналежнасьці да партыі камуністаў у арганізацыі тайных баявых дружын з мэтаю замаху на дзяржаўную ўладу, у друкаванай і вуснай агітацыі, у атрымліваньні грошаў ад камуністаў. Карным кодэксам за ўсё гэта прадугледжваўся смяротны прысуд ці катарга. Ён і праўда дапамагаў падпольшчыкам-камуністам: захоўваў партыйныя грошы, шыфры, рэвалюцыйную літаратуру.

У ноч з 4 па 5 лютага пісьменьнік быў высланы ў нейтральную зону паміж польскай і літоўскай межамі, а адтуль —у Коўна і затым Дзьвінск. 21 ліпеня яго зноў арыштавалі й адправілі ў Вільню, дзе пад аховай быў каля 3 тыдняў, а затым выпушчаны пад залог у 10 тыс. польскіх марак.

працаваў у напрамку нацыянальнага Адраджэньня Беларусі. Справа ў тым, што з вясны 1922 г. У.Ленін(«Комсомольская правда» ад 12.02.1922 г.) задумаў шырокамаштабную акцыю: выслаць за мяжу ўсіх прадстаўнікоў вольнадумчай інтэлігенцыі, якіх ён у пісьме да М. Горкага ацаніў *«как интеллигентиков, лакеев капитала, мнящих себя мозгом нации. На деле это не мозг, а говно»*.У лісьце да Ф.Дзяржынскага ён патрабуе *«собирать систематические сведения о политическом стаже, работе и литературной деятельности профессоров и писателей»*. І. Сталіну прапануе *«выслать за границу безжалостно» «всех их вон из России», «арестовать несколько сот и без объявления мотивов—выезжайте господа!» «Очистим Россию надолго!»*

15 верасьня сястра братоў Гарэцкіх—Ганна, толькі што паступіўшая ў Заатэхнічны інстытут, несла ў турму для брата перадачу і трапіла пад трамвай і праз тры дні памёрла. Гора братоў было бязьмежным —яны так любілі сваю адзіную, мілую, сардэчную, вельмі здольную сястру. Гэты дзень для іх на ўсё жыцьцё стаў самотным. Амаль праз 20 гадоў Гаўрыла Гарэцкі напіша ў запісную кніжку: «Ах, Ганулька, Ганулька, кветка растаптаная. Дарагая мая мучаніца. Што-ж нарабіў я?» Максім прысьвяціў Ганне «Хрэстаматыю беларускай літаратуры. XI век—1905 год»: «Яе дарагому вобразу, як памятку на магілку на чужыне, гэтую кнігу прысьвячаю. Брат».

Уладзімір Дубоўка, які вельмі сябраваў з Гарэцкімі, на зборнічку верша ў«Строма» (Вільня, 1923) напісаў: «Сьветлае памяці Ганулі Гарэцкай, як вяночак на магілку ў чужыне, прысьвячаю. Аўтар».

У Маскву за подпісам Старшыні ГПУ Беларусі была дадзена вельмі характэрная тэлеграма: *«Постановлением ГПУ высылается заграницу в числе антисовеской профессуры белорусский деятель Горецкий. Центральное Бюро Компартии через ГПУ просит высылку заграницу заменить высылкой одной из отдаленных губерний России. Появление Горецкого помешает начатой ЦК работе разложению белоруссов шовинистов и наоборот усилит их контрреволюционные настроения»*.

Гаўрыла Гарэцкі тады ня быў высланы за граніцу (меркавалі паслаць у Нямеччыну). Ня ведама, што яго выратавала:ці то сьмерць сястры, якая вельмі хвалявалася за брата. і ахвяравала сваім жыцьцм, што выгукнула адкладаньне высылкі на 10 дзён, а там, магчыма, і сітуацыя зьмянілася, ці тыя добрыя водгукі і хадайніцтва сумленных людзей з Акадэміі (але,гледзячы па пратаколах сьледчых гэта мала верагодна, бо ім факты і доказы былі мала патрэбны), ці просьба Цэнтральнага Бюро КП Беларусі, якому Гарэцкі перашкаджаў за мяжой весьці разбуральную справу сярод «беларусаў-шавіністаў»,ці размова з В.Р.Менынскім,якому спадабаўся палкі юнак і ён яго пашкадаваў. Хутчэй за ўсё ,усе падзеі разам паўплывалі на яго лёс, які пры іншым зыходзе бы ў-бы другім

Толькі ў канцы кастрычніка 1923 года Максім Гарэцкі разам зь сям'ёй езьдзіў у Варшаву ў Савецкае пасольства дзеля атрыманьня права на ўезд у СССР.Хутка пасьля гэтага быў зволены з гімназіі як непажаданы элемент, але удалося пераехаць зь Вільні ў савецкі Менск. Яшчэ амаль 1, 5 года жыцьця было скомкана.

Як вядома, ужо ў канцы 20-х гадоў пачынаюцца абвінавачваньні многіх пісьменьнікаў у «кулацкіх тэорыях», «антыпартыйных поглядах», «нацыяналістычнай абмежаванасьці», «буржуазнай нацдэмаўшчыны» і г.д. Ды і самі пісьменьнікі і іх асобныя гру-

пы пачынаюць даказваць сваю большую «рэвалюцыённасьць» і абвінавачваюць другіх у «контррэвалюцыённасьці». Трэба адзначыць, што М. Гарэцкі стаяў убаку ад гэтай барацьбы.

Зноў у ліпені 1930 г., а менавіта 18 ліпеня (амаль у дзень нараджэньня сына Лёні—15, ліпеня, і ў дзень шлюбу з Л. Чарняўскай —16 ліпеня) М.Гарэцкага арыштоўваюць. У гэты-ж дзень быў выпісаны ордэр і на арышт Гаўрылы Гарэцкага, але ён тады адапчываў у Хосьце і таму быў арыштаваны ў Сочы толькі праз 10 дзён па дарозе ў Менск. Ён некалькі дзён сядзеў у Наварасейскай турме, а 3 жніўня спецканвоем быў дастаўлены ў Менск.

М.Гарэцкі праходзіў па справе «Саюзу вызваленьня Беларусі», а Г.Гарэцкі — па справе «Працоўнай Сялянскай Партыі», хаця абодва лічыліся ўдзельнікамі і той і другой арганізацыі. Як стала вядома зараз, справы былі выдуманы, але 10 красавіка 1930 г. (у дзень нараджэньня Гаўрылы) Максім быў прыгавораны да 5 гадоў высылкі ў Вятку (затым г. Кіраў), Г.Гарэцкі ў травўні 1931 г. быў засуджаны да вышэйшай меры пакараньня, якая затым была заменена на 10 гадоў лягероў.

Так абодва браты трапілі ў «архіпелаг ГУЛАГ».

У Вятцы М.Гарэцкі год жыў адзін, а потым, з чэрвеня 1932 г. разам зь сям'ёй. Як успамінае Л. Чарняўская: «Жылося цяжка, Працавалі мы абое многа, а дастатку не было . Стамляліся, нерваваліся. ... для Максіма становішча ссыльнага было маральна цяжкім. Што тыдзень ён хадзіў на рэгістарацыю ў камендатуру ...Найбольш балела Максіму тое, што колькі ні прасіў, не мог атрымаць дазвол зьезьдзіць у наведкі да бацькоў у Беларусь. ... Маці ніяк зразумець не магла: не сядзіць-жа сын у вастрозе, ходзіць, вольна жыве зь сям'ёй, нават часам грошы пасылае, а ўсё ня едзе. Чакала, чакала і не дачакалася. Падняла цяжкі кошык з бульбай, надарвалася і памёрла ў пачатку сакавіка 1935 году. Вялікім горам была гэтая сьмерць для Максіма».

У сумнавядомы 1937 год—год найбольшага ўздыму сталінскіх рэпрэсіяў —дабівалі незагінуўшых у мінулыя гады «недабітых » «ворагаў народу» і «шпігонаў». Былі створаны так званыя «тройкі», якія надзяляліся асобнымі паўнамоцтвамі і выносілі канчатковыя прыгаворы.

У канцы кастрычніка 1937 г. «чорны воран» забраў Г.Гарэцкага, які ў той час працаваў на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага камбіната ў Мядзвежай Гары (Карэлія), а ўжо ў ноч з 3 на 4 лістапада арыштавалі і М.Гарэцкага, які жыў у пас. Кіраў (былая Пясочня) і працаваў настаўнікам русской мовы і літаратуры.

У пачатку сьнежня Гаўрылу вызвалілі (хаця перад гэтым зноў прысудзілі да вышэйшай меры пакараньня), а Максіма 21 сьнежня перавялі ў Вязьму. Праз 15 дзён 5 студзеня 1938 г. адбылося пасяджэньне тройкі Кіраўскага аддзяленьня НКУС, якое пастанавіла «*Горецкого Максима Ивановича расстрелять*».

Парадокс нашага жыцьця пры таталітарызме: палякі арыштавалі за пракамуністычную дзейнасьць, галоўнае абвінавачваньне ў бальшавікоў—раз сядзеў у польскай турме, значыць «польскі шпіён».

Праз тры дні Л.Чарняўская з сынам прыехала ў Вязьму, атрымала дазвол на перадачу (бялізну, цукар, махорку, сухары. перадаць не дазволілі). І ў камендатуры і ў асторзе прыйшлося доўга стаяць на моцным марозе ў вялізнай чарзе, бо людзей, жадаючых зрабіць перадачу, было надта многа. Ад М. Гарэцкага прыйшла запіс-

ка: *«Спасибо на передачу. Получил всё. Отсылаю обратно корзинку и рубашки. Заботтесь о себе. Максим».*

Л. Чарняўская ўспамінае: *«І гэта запісачка была апошняя, пісаная да нас рукой Максіма. Вярнулася я ў Пясочню. Пайшла да сьледчага, каб дазволіў спатканьне. Ён, праўда, абяцаў, але, калі зьявілася на дазвол, сказаў, што зараз справа Гарэцкага не да іх належыць. Яшчэ раз паехала я ў Вязьму, зьвярнулася ў камендатару. Дзяжурны (той, што ў пачатку студзеня дазволіў перадачу) абвясьціў, што Максім Іванавіч Гарэцкі ўжо выбыў з Вязьмы, а куды ня ведае. З гэтым я і вярнулася дамоў».*

10 лютага 1938 г. М. Гарэцкага расстралялі. Да 45-годзьдя заставалася 8 дзён.

10 лютага 1993 году беларуская дэлегацыя была ў Вязьме, прысутнічала на адкрыцьці помніка, на якім напісана: *«Предположительно на этом месте, где похоронены сотни известных и неизвестных людей —жертв репрессий, покоится прах белорусского писателя, ученого и педагога Максима Ивановича Горецкого».* Апрача Вязьмы, на наступны дзень, мы езьдзілі ў музей-сядзібу А. С. Грыбаедава, Хмеліту. Мы ўспомнілі, што 19 лютага, а затым 11 лютага былі забіты два вялкіх расіяніны, два Аляксандры Сяргеевічы—Пушкін і Грыбаедаў.

Амаль у такія-ж марозныя дні 13 лютага, але праз 7 год пасьля расстрэлу сына памёр ад тыфусу бацька пісьменьніка Іван Кузьміч ва ўзросьце 89 год. А за год перад гэтым у 1944 ў дзень нараджэньня М.Гарэцкага на фроньце быў забіты яго сын Лёня.

Брату пісьменьніка—Гаўрылу —прыйшлося з 8 травеня 1938 г. па 22 чэрвеня 1939 г. адсядзець у сталінскіх казематах.

Я падлічыў, што М. Гарэцкаму давялося пражыць у больш-менш нармальных умовах усяго каля 13 год. Яны і зьявіліся асноўнымі, калі ён змог напісаць свае галоўныя мастацкія і навуковыя творы. Але і ў турме ў Менску, а потым у ссылцы ён не пакідаў пяро і пісаў. Яму давялося скончыць «Віленскія камунары» і значна папрацаваць над «Камароўскай хронікай». А колькі-б змог зрабіць пісьменьнік пры іншым лёсе жыцьця!

Што-ж падтрымлівала братоў Гарэцкіх у іх нялёгкім жыцьці?

Безумоўна, гэта бязмежная любоў да сваёй Бацькаўшчыны, да любай іх сэрцу роднай Беларусі, дзеля Адраджэньня якой яны аддалі свае сілы. Мяккая матчына зямелька прыняла малодшага брата. Старэйшаму не давялося дабрацца да Радзімы. Ён знайшоў свой пакой на Вяземшчыне—этнічна беларускай зямлі, якая зьмяшалася каля помніка са жменькай прывезенай бацькаўскай зямелькі.



Бацькі братоў Гарэцкіх Іван Кузьміч і Еўфрасіньня Міхайлаўна.

# Віленскія беларусы расказваюць...



Сьвятлана Белая

З др. Міколам Шчорсам, чалавекам цікавым і неардынарным, я пазнаёмілася завочна,дзякуючы аповядам д-ра Вітаўта Тумаша, сп-і Раісы Галяк, сп-і Вольгі Сяднёвай, сясьцёр Будзькаў. Узгадваючы пра Беларускі Студэнцкі Саюз, яны не маглі ні расказаць пра галоўнага арганізатара ўсіх мерапрыемстваў, ладжаных БСС, пра ідэйнага кіраўніка моладзі і натхніцеля многіх пачынаньняў Саюзу, шматгадовага старшыню БСС Міколу Шчорса. Таму мне вельмі хацелася сустрэцца з гэтым чалавекам,які і пасьля ад'езду на Захад праводзіў працу па арганізацыі беларускага жыцьця на эміграцыі, а таксама дасягнуў добрых высотаў на прафэсыйным попрышчы.

Нашая сустрэча з Міколам Шчорсам адбылася ў маленькім флярыдскім горадзе Моўнт Дора, куды Мікола Шчорс пераехаў пасьля таго, як пакінуў прыватную хірургічную практыку і выйшаў на пенсію.

Ціхі, неспадзявана ціхі для курортнай Флёрыды гарадок і надзвычайная цішыня ў хаце сустрэлі мяне, калі я прыехала ў госьці да д-ра Шчорса. Вялікі плот агароджваў з панадворку дом ад маленькай вуліцы і не прапускаў ніводнага гуку звонку. Нават любімы сабака спадара хаты таксама зьдзівіў мяне сваёй маўклікавасьцю. І толькі калі мы пачалі гаварыць з Міколам Шчорсам пра жыцьцё, калі ён пачаў узгадваць Новы Сьвержань, адкуль ён родам, мястэчка з моцным нацыянальным духам, пра свае студэнцкія гады, праведзеныя ў Вільні, ён зьмяніўся. Зь ціхага, нетаропкага, крыху абыякавага да акружаючага яго навакольля, Мікола Шчорс пераўтварыўся ў энергічнага, зь вясёлым і здаровым гумарам чалавека. Мне проста ня верылася, што яму мусіла хутка споўніцца 80-гадоў і што ён перанёс не адну сур'ёзную аперацыю.

Мікола Шчорс расказваў пра сям'ю, настаўніка-бацьку, які належаў да Грамады і пасьля яе разгрому 7 дзён адсядзеў у Наваградзкай турме. Успамінаў аб Стаўбцоўскай польскай гімназіі, куды ён хадзіў кожны дзень за 6 км. Згадваў пра аматарскі Новасьвержаньскі тэатр, дзе ён быў ягоным арганізатарам і дырэктарам. Пасьля мы перайшлі да размову пра Вільню, Віленскі унівэрсытэт, Беларускі Студэнцкі Саюз. У гэты пэрыяд, як мне здаецца, Мікола Шчорс ужо поўнасьцю склаўся як асоба і патрыёт Беларусі.

# Беларускі Студэнцкі Саюз

Мікола Шчорс

Першы раз я трапіў у Вільню ў 1933 г., у часе, калі паехаў здаваць уступныя экзамены ў Віленскі ўнівэрсытэт. Вільня ўразіла мяне сваёй гістарычнасьцю. Усё ў гэтым старажытным горадзе нагадвала, што ён некалі быў сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Хаця мяне больш прываблівала права, я вырашыў паступаць на мэдыцыну, каб у далейшым быць незалежным. Мой старэйшы сябра Міхась Тулейка, які скончыў права, ужо каторы час быў беспрацоўным. Я разумеў, што пад ціскам Польшчы ходу беларусам у ворганах юрысдыкцыі ніколі ня будзе. Тулейка быў сябрам Беларускага Студэнцкага Саюзу, і калі я паступіў у Віленскі ўнівэрсытэт, то адразу ўвайшоў у БСС. У БСС налічвалася тады прыблізна 100-115 сябраў. Аднак беларусаў, якія прыходзілі на мерапрыемствы БСС было значна болей. (*Каб уступіць у БСС патрабавалася толькі жаданьне, але многія баяліся афіцыйна уступаць у Саюз, бо не хацелі мець у далейшым ніякіх перашкод. Было вядома, што тыя, хто належаў да БСС будучыні ня мелі*). Пераважна ў БСС уваходзілі «гуманісты» і «прававікі». Медыкаў было вельмі мала, бо для беларуса паступіць на мэдычны факультэт Віленскага унівэрсытэту было складана, як і іншым «меншасьцям»: жыдам, расейцам, украінцам. Беларусаў прымалі на мэдыцыну ў абмежаванай колькасьці (да 5 асобаў у год). Затое карэнныя палякі з Пазнаньшчыны, Лодзенчшыны прымаліся ва ўнівэрсытэт без усялякіх перашкод. Некаторыя зь іх, не паступіўшы ў Варшаўскі ўнівэрсытэт прыязджалі ў Вільню, дзе іх бралі зь вялікай ахвотай.

Як я ўжо сказаў, як толькі я паступіў ва унівэрсытэт, я адразу прыйшоў у БСС. Выбралі мяне на сакратара Саюзу. А пасьля, меньш чым праз год, на агульным перавыбарчым сходзе выбралі за старшыню БСС. І на гэтай пасадзе я быў увесь час вучобы ў Віленскім унівэрсытэце.

Беларускі Студэнцкі Саюз ня быў палітычна аднароднай арганізацыяй. Увесь час у ім адбывалася змаганьне розных групіровак. У Саюзе былі левыя, сацыялісты, хадэкі і правыя. Хадэкамі апекаваўся кс. Адам Станкевіч. Хадэкі мелі свой уплыў на моладзь і былі даволі прагрэсыўна настроеныя, пакуль ня быў створаны так званы Супольны фронт і хадэкі пачалі супрацоўнічаць з саветчыкамі. Доўгі час хадэкі атрымлівалі грошы ад літоўцаў.

Сацыялісты былі пад «апекай» др. Міколы Чарнецкага. Яны выдавалі часопіс «Золак» (1930-1938 гг.)

У левых не было выразнага бальшавіцкага лідэра. Імі кіравалі з-за кулісаў, і ніхто ня ведаў, хто гэта. Калі мы зь сябрамі выдалі нумар часопісу «Студэнцкая Думка», а на наступны нумар не хапіла грошаў, да мяне, як лідэру правых, прыйшоў адзін з кіраўнікоў левых і прапанаваў: «Калі вы ня будзеце выступаць у сваім выданьні супраць СССР, то наша арганізацыя дасьць вам на выдавецтва грошы». Зразумела, што я адмовіўся.

Правыя таксама не былі аднароднай арганізацыяй. Былі так званыя хрысьціянскія дэмакраты і нацыяналісты. Да таго часу пакуль мы падтрымоўвалі сувязі з хрысьціянскімі дэмакратамі правыя мелі большасьць у БСС. Калі гэтая сувязь перастала падтрымоўвацца, правыя сваю большасьць згубілі.

Беларускі Студэнцкі Саюз быў утвораны

ў 1922 годзе. У сваёй рабоце БСС залежыў не ад польскай адміністрацыі, а ад кіраўніцтва унівэрсытэту. Як і кожная студэнцкая арганізацыя БСС меў свайго куратара, прафэсара Эрвіна Кашмідэра, немца па паходжаньню. Кашмідэр выкладаў славянскую філялёгію, быў спакойным, ураўнаважаным чалавекам. (*Да Віленскага ўнівэрсытэту ён выкладаў у Вроцлаўскім унівэрсытэце. У Вільню ён трапіў, дзякуючы вучню Я.Карскага, праф. Атрэмскаму, які, пачуўшы на славянастычным зьезьдзе даклад дацэнта Кашмідэра па польскай граматыцы (стылістыцы), запрасіў яго выкладаць славянскую філялёгію ў Вільню. Кашмідэр добра ведаў польскую, рускую і беларускую мовы. У 1938 г. яго тэрмінова адклікалі зь Вільні, і ён вымушан быў хутка ад'язджаць у Нямеччыну. У часе вайны Э. Кашмідэр быў змабілізаваны ў нямецкую армію афіцэрам сувязі, а пасьля вайны выкладаў у Мюнхенскім унівэрсытэце.—Заў А. Шукелойца)*

Праграмай БСС было ўтрыманьне й узмацьненьне нацыянальнага руху сярод студэнцкай моладзі. Гэта рабілася рознымі, мэтадамі: праз ладжаньне рэфератаў і дакладаў, правядзеньне вечарынаў і гарбашак, адзначэньняў нацыянальных беларускіх сьвятаў.

Амаль кожны год сябры Беларускага Студэнцкага Саюзу сьвяткавалі 25 Сакавіка. Рабілі гэта без асаблівай пампезнасьці, але ўрачыста. Праходзіла сьвяткаваньне ў залі БСС на Завальнай, дом № 1. Праграма сьвяткаваньня складалася з рэферату, які чытаў нехта з удзельнікаў тых памятных сакавіцкіх дзён або чалавек, які займаўся вывучэньнем Акту 25 Сакавіка. Пасьля дакладу былі дэклямацыі. Студэнты, сябры БСС, чыталі патрыятычныя вершы нашых беларускіх паэтаў Янікі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Алёізы Пашкевіч (Цёткі) і г.д. Заключнай часткай звычайна быў канцэрт.



*Гарбашка Беларускага Студэнцкага Саюзу. 4 XI. 1933*
*Мікалай Шчорс стаіць у 4 радзе першым зьлева*

# З архіваў КДБ

## Сьведчаньні арыштаў А. Смоліча

ад 20 кастрычніка 1930 г.

### *Моя политическая деятельность до 1922 года в связи с общими событиями эпохи*

Моя сознательная жизнь началась с 1909 года, первого года моего студенчества в сельхозинституте в Новой Александрии. Сразу я сошелся с меньшевиками, но мало активными (Иоффе), затем попал в эсеровский кружок, где руководили максималисты (Буцевич). В 1910 году я работал в подпольной студенческой организации, объединявшей социалистические кружки всех направлений. Эта организация руководила революционной борьбой в Н.Александрии. Работая над своим политическим миросозерцанием, я стремился приспособить социалистическую программу к конкретным условиям революционной борьбы в Белоруссии. Это натолкнуло меня на мысль связаться с Белорусской Социалистической Громадой, о которой я немного слышал и раньше, а затем в Институте от студента М. Бурштейна,—тогда уже постоянного читателя «Нашей Нивы». Я познакомился с белорусской литературой, произведшей на меня большое впечатление.Будучи в Минске, я связался с Белорусской Социалистической Громадой через А. Власова, тогда только что вышедшего из тюрьмы, и с того времени начал пробовать свои силы на массовой работе в деревне и в институте. Осенью 1910 года развернулись крупные революционные события. Это было время оживания революционного движения после годов реакции .Вслед за Петербургским студенчеством нашей организацией проведено было две больших демонстрации, а затем вспыхнула забастовка под лозунгом студенческой автономии-участия в управлении институтом. Положение особенно обострилось благодаря борьбе со штрейкбрехерами-академистами. Я, как член забастовочного комитета, был все время впереди и попал в число 36 человек, уволенных из института. Варшавский генерал-губернатор всех нас выслал из «Привисленского края».

Посьле длительного периода безработицы я нашел работу в частном лесничем бюро в качестве таксатора. В этой отрасли я работал около 2 лет. Странствуя по лесам Западной Белорусии, причем все время вел порпаганду среди сельскохозяйственных рабочих и крестьян.Одновременно усиливались мой связи с «Нашей Нивой», где концентрировались громадовцы. В конце 1912 года я уехал в Петербург и поступил на частные сельскохозяйственные курсы—был я там только один год. За это время я близко сошелся с Таршкевичем, и мы вместе повели работу среди белорусского студенчества, основывали и вели кружки, разрабатывали програмные вопросы. Летом 1913 года я служил несколько месяцев в лаборатории ЛР ж.д. в Минске, пока не был уволен по требованию жандармов, как неблагонадежный. За это время я организовал в Минске белорусскую национально-культурную работу в форме клуба, которого, однако, легализовать не удалось. Вокруг

этого начинания собралась довольно большая группа, в которую входили, главным образом, мелкое окраинное мещанство, немного рабочих и интеллигенции. Тогда же нами была организована первая театральная группа под руководством Ф.Ждановича, ставшая ядром белорусских театров позднейшего времени. Вообще же в дальнейшем белорусская национальная работа в Минске почти не прерывалалсь. Осенью на мое место перехал сюда из Вильно Власов с журналом «Соха», несколько позже —поэтесса Цетка, издававшая журнал «Заранка», отрылася книжный магазин, игравший роль клуба. и т.д.

В 1913 г. по амнистии мне и всем моим товарищам было позволено вернуться в Н.Александрию, и я туда уехал. Общественная жизнь в Институте посьле 1910 года замерла. Я все-же организовал кружок «по изучению Белоруссии» и вел в нем политическую и культурно-научную работу, поддерживал тесную связь с Ленинградом и Вильной. Все это время я придерживался программы Белорусской Социалистической Громады, по своему характеру эта программа ближе всего стояла к программе ППС; в основе меньшевисткая, но с националистическими добавлениями. Для Белорусии БСГ требовала территориальной автономии с сеймом в Вильне, а в дальнейшей перспективе предполагала независимость, хотя последняя казалась тогда почти несбыточной. Впрочем, самые скромные белорусские национальные образования не имели никаких шансов на успех. Могущество Росии и ее империалистическая полититка, особенно ревнивая в отношении белоруссов, делала невозможным даже открытие хотя бы одной начальной белорусской школы. Поэтому среди громадовцев господствовало антирусское настроение, которое с объявлением войны вылилось в пораженческую платформу.

В 1914 году институт наш был эвакуирован в Харьков, где я продолжал свою работу среди белорусского студенчества. В Харькове я близко сошелся с левыми социалистами, вместе с которыми организовывал рабочию кооперацию. Один из активных большевиков, студент технолог Сергун вошел в наш белорусский кружок, что сильно способствовало его общему полевению. Однако, я в это время уже кончил институт, втягивался в научную работу и уезжал надолго в экспедиции и на практику, а многих членов кружка, в том числе и Сергуна мобилизовали, в результате чего работа кружка заглохла.

Весной 1916 года я уехал на практику на Энгельгардтовскую станцию,но осенью этого года я решил более не возвращаться в Харьков,так как хотел несколько самостоятельно поработать, прежде чем писать дипломную работу. С другой стороны, чувствовалось, что в России, и в особенности в Белоруссии, назревают большие события. Я был тогда за поражение России, как по мотивам общеполитическим (я принимал Циммервальдскую платформу), так и по национальным. В русских газетах появились возмущенные заметки о белорусских сепаратистах в Вильне и о их газете «Гоман», о развити белорусской школьной и вообще культурной работы под немецкой оккупацией. Возможно было продвижение немцев на восток, ожидались и крупные внутренние события. В Минске в то время ощущался острый недостаток людей в белорусской работе. В начале войны мною была основана здесь новая легальная белорусская организация: «Общество помощи жертвам войны». Она открыла несколько мастерских для беженцев, столовую и, нако-

нец, приют для детей, а при нем негласно —первую в Минске белорусскую школу. Мне казалось, что мои силы теперь особенно нужны в Минске, чтоб развернуть белорусскую политическую работу, и что мой долг быть там.

По приезде в Миснк я застал здесь известного белорусского поэта Богдановича. Им руководили приблизительно те же мотивы, что и мною, и он приехал из Ярославля доживать в Минске свои последние месяцы (он был в чахотке). С ним был я очень дружен, и он несомненно оказал на меня большое влияние. По своим взглядам он был анархист-индивидуалист с яркой националистической окраской. В национальной политике, которой он тогда руководил, он твердо стоял на точке зрения коалиции с буржуазией. Эту точку зрения он и проводил в жизнь во время своей работы в Минске. Я же занялся главным образом, культурной работой, подготавливал театр и хор, но организовывал также социалистические кружки молодежи. Работу себе я нашел в статистическом бюро губземства где был сначала статистиком и выполнял по темовым заданиям научную работу, а затем помощником зав. бюро. В этой должности я служил до конца 1918 года, руководя проведением и разработкой сельхозпереписей.

Организационным центром белорусской национальной работы в Минске был в то время Комитет жертвам войны. Богданович уговорил войти туда Скирмунта, который за собою привлек еще кое-кого из белорусской крупной буржуазии.

Когда вспыхнула февральская революция, Богдановича уже в Минске не было, он уехал в Ялту. Не было вследствие этого и единого общепризнанного руководства в Комитете. Правые элементы организовал в нем Алексюк, и они были теперь довольно сильны. Я же с молодежью с первых дней революции начал массовую агитационную работу, устраивал митинги на площадях и казармах, на заводах. На Золотой Горке мы организовали белорусский кооператив, который здесь стал центром нашей пропаганды. Велась работа среди железнодорожников, в мастерских МББ ж.д. Кружки наш сильно росли, но принимали характер, главным образом, национально-культурный. Создался театр. Мы провели ряд выездов на провинцию, в соседние местечки.

(Працяг будзе)



# На Лукішскім пляцы

Міхась Дубок

Кастусь Каліноўскі нарадзіўся 2 лютага 1838 г. у Мастаўлянах, Беласточчына. У 1860 г. скончыў Пецярбургскі ўнівэрсытэт са ступеньню кандыдата права. У пачатку 1861 г. ён прыехаў у Горадзеншчыну і пачаў працу сярод сялян, рыхтуючы іх да паўстаньня, якое выбухла ў студзені 1863 г. у Варшаве, калі ў Літве (Беларусі) да паўстаньня не былі належна падрыхтаваны. Каб хутчэй здушыць паўстаньне, цар прызначыў М.Мураўёва генэрал-губэрнатарам на 6 губэрняў. Мураўёў 26 травеня 1863 г. зьявіўся ў Вільні. Распачаўся жахлівы тэрор. Родзічы ссыльным пісалі ў лістах: «Ня там Сібір, куды вас выслалі, але тут у родным краю сібірская сьцюжа».

Прыблізна ўпачатку ліпеня 1863 г. К.Каліноўскі прыехаў у Вільню. Ён жыў пад рознымі прозьвішчамі, спачатку на прыватных кватэрах, пазьней, калі мураёўская паліцыя пачала шукаць яго, перабраўся ў «Сьвентаяньскія» забудовы, дзе наняў пакойчык. Жыў Кастусь Каліноўскі па суседзтву з М. Мураўёвым, які ганяўся за ім, кіраўніком паўстаньня, па горадзе і прадмесьцях, не падазраючы, што ён жыве ад яго амаль праз вуліцу. Кастусь Каліноўскі абедаў у рэстарацыях, у якіх сустракаў за столікамі жандармаў і ўрадаўцаў Мураўёва. Здараліся выпадкі,што ён сядзеў за адным сталом з гэтымі людзьмі.

Экзекуцыі ўдзельнікаў паўстаньня адбываліся кожны тыдзень на Лукішскім пляцы. Каліноўскі ішоў на гэты пляц, вачыма сустракаўся з тымі, хто ішоў на шыбініцу, і вачыма прамаўляў: «Я яшчэ жывы, і жывое паўстаньне».

Уставаў Кастусь а 9-й рана, сьнедаў, а 10-й ішоў на ўмоўленае месца, дзе сустракаў пасланцоў ад паўстанцкіх аддзелаў, прымаў іх рапарты і даваў дырэктывы.Пасьля ішоў у рэстаран абедаць, каля 1-й гадзіны варочаўся і заставаўся ў сваім пакойчыку да гадзіны 6-й. Прыходзілі да яго вельмі давераныя асобы,а каб зьменшыць падозраньне жандармаў, гэта былі жанчыны. Яцына рэкамэндавалася сястрой, а Длуская, нарачонай. Пасьля 6-й гадзіны вечарам Каліноўскі ізноў выходзіў на 3 гадзіны для спатканьня зь сябрамі тайнага паўстанчага камітэту.

Каліноўскі мог дзясятак разоў выехаць за мяжу імпэрыі, або схавацца ў адным зь вялікіх гарадоў: Рызе, Пецярбурзе, Кіеве. Але ён заставаўся ў Вільні. Ведаў, што яго аднаго дня арыштуюць. Гаварыў:«Я паклікаў сялян да паўстаньня і пакідаць іх не магу, загіну за іх на роднай зямельцы».

Ноччу з 9 на 10 лютага 1964 г. войска з жандармэрыяй акружылі «Сьвентаяньскія» збудаваньні. Каліноўскі быў арыштаваны. Месяц былі допыты, але Каліноўскі нікога ня выдаў. Называў прозьвішчы тых, хто быў пакараны сьмерцю і тых, хто змог выехаць за мяжу. 10 сакавіка адбыўся суд ваеннай калегіі. Каліноўскі з высока ўзьнятай галавой адказываў на пытаньні і адначасна абвінавачваў царскі ўрад. 14 сакавіка Каліноўскага прыгаварылі да расстрэлу, але Мураўёў загадаў замяніць расстрэл на павешаньне.

22 сакавіка а 9-а гадзіне Кастуся Каліноўскага павялі на Лукішскі пляц. Вуліцы, па якіх вялі яго, былі поўныя людзей. А 10.30 Кастусь моцным голасам крыкнуў: «Няма ў нас шляхты, мы роўныя людзі!» Гэта былі апошнія словы кіраўніка паўстаньня.

# «Полацак» набірае размах

Леанід Лыч

*(Погляд чытача з метраполіі)*



Здаецца, яшчэ зусім нядаўна я са сваімі сябрамі зь вялікай цікавасьцю перагортываў старонкі першых нумароў часопіса «Полацак», што з канца 1990 г. пачаў выходзіць у амэрыканскім горадзе Кліўленьдзе (штат Агаё). А сёньня... Сёньня ўжо мною, як і ва ўсе астатнія разы, зь вялікай зацікаўленасьцю прачытаны яго трыццаты нумар. Гэта выдатная падзея ў беларускай эміграцыйнай пэрыёдыцы і падштурхнула мяне, каб узяцца за пяро і выказаць свае меркаваньні адносна «Полацка», якi, не перабольшу, адразу-ж паланіў душы і сэрцы многіх з чытачоў і самой метраполіі Беларусь. Ужо азнаёміўшыся зь яго першым нумарам, паэт Сяргей Законьнікаў шле сваім калегам у далёкім Кліўленьдзе верш, які закончваўся такімі словамі-пажаданьнямі: *«Хай «Полацак» узносіць дух Скарыны І словам поіць сэрцы землякоў!»*

Вельмі ўхваліў *«памкненьне беларусаў далёкай для нас Заакіяньшчыны стварыць свой нацыянальны часопіс са сьвятой для ўсяе Беларушчыны назвай «Полацак»* народны пісьменьнік Беларусі, прэзыдэнт згуртаваньня беларусаў сьвету «Бацькаўшчына» Васіль Быкаў. Павіншавалі чытачоў, фундатараў-спрыяльнікаў, выдаўцоў часопіса «Полацак» ад імя сяброў Беларускага ПЭН-цэнтру паэт Рыгор Барадулін, ад Сойму Беларускага Народнага Фронту—намесьнік старшыні, навуковец Міхась Ткачоў. Яму належаць словы,да якіх,напэўна-ж не маглі не прыслухацца беларускія выдаўцы зь Кліўленда: *«Няхай-жа займе сваё месца ў шыхтах Беларускага «Адраджэньня» й часопіс «Полацак»*, бо даная надзёная праблема прысутнічае амаль у кожным яго нумары. Аб тым, як яна асьвятляецца, і пойдзе ў мяне больш падрабязная гаворка, бо на сёньня ў нас няма больш актуальнай задачы, як нацыянальна-культурнае Адраджэньне. Што датычыць іншых асьпектаў, зь якімі выходзіць на чытача беларускія выдаўцы з Кліўленда, надам ім, магчыма, і не заслужана, менш увагі, таму што ў адной рэцэнзіі нават павярхоўна нельга разгледзіць усё тое, што напісана ў трыццаці нумарах часопіса «Полацак».

На працягу апошніх ста гадоў беларускі народ двойчы ўступае ў паласу свайго нацыянальна-культурнага Адраджэньня. Першая спроба трагічна закончылася для нас у выніку масавых рэпрэсыяў 30-х гадоў. Але й яна назапасіла багацейшыя матэрыя-

лы, грунтоўны аналіз якіх шмат у чым можа дапамагчы пры вырашэньні данай праблемы на сучасным этапе гісторыі. Таму трэба толькі вітаць, што рэдакцыя часопіса «Полацак» з такой прыхільнасьцю ставіцца да азнаямленьня сваіх чытачоў зь нялёгкім, складаным лёсам беларускага адраджэнскага руху канца XIX—першых двух дзесяцігодзьдзяў XX стст.Той, хто рэгулярна сочыць за часопісам «Полацак», знаходзіць у ім многа такіх матэрыялаў, якія яшчэ не друкаваліся ў пэрыёдыцы Рэспублікі Беларусь.

Сурьёзную размову па праблеме Адраджэньня часопіс адкрыў ужо ў сваім трэцім, паводля агульнага ліку, нумары артыкулам Вадзіма Круталевіча *«25 сакавіка 1918 г. у гісторыі самавызначэньня Беларусі»*, які меў працяг у двух наступных нумарах. Асабліва цікавым для чытача тут будзе азнаямленьне з поглядам аўтара артыкула на факт пасланьня ў красавіку 1918 г. некаторымі сябрамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі тэлеграмы нямецкаму кайзеру Вільгему II з удзячнасьцю за вызваленьне Беларусі ад бальшавікоў на што ячшэ і сёньня не існуе адзінай думкі ў вучоных. Адсутнічае яна й у пытаньні: ці была БНР рэальным суверэнным дзяржаўным утварэньнем? Заяўляючы, што *«БНР не склалася»*, Вадзім Круталевіч усё-ж бачыць у асобе яе Рады свайго роду палітычны цэнтр, які *«выступіў у ролі абаронцы інтарэсаў нацыі, яе правоў на самастойную дзяржаўнасьць»*.

Пахвальна, што ў часопісе «Полацак» праблему беларускага нацыянальна-культурнага Адраджэньня імкнуцца паказаць праз канкрэтную дзейнасьць тых слынных асобаў, якія бралі найбольш актыўны ўдзел у ім і пакінулі ў гісторыі прыкметны сьлед аб сабе. У гэтым пляне асабліва варта ў першую чаргу адзначыць артыкул Мікалая Сташкевіча й Юрыя Смірнова *«Палітычны партрэт Зьміцера Жылуновіча»*. Раней вобраз гэтай неардынарнай асобы малявалі ці толькі ў ружовых, ці толькі ў чорных танах. Названыя аўтары на падставе глыбокага вывучэньня архіўных матэрыялаў змаглі паказаць Зьміцера Жылуновіча такім, якім ён быў у сапраўднасьці. Яны высока ацанілі яго артыкулы па праблемах вызваленчага змаганьня ў беларускім рэгіёне, разьвіцьця нацыянальнай культуры, фармаваньня беларускай інтэлігенцыі й яе месца ў нацыянальна-адраджэнскім руху, раскрыцьця ідэалягічнай, палітычнай падаплёкі тэатральнай дыскусіі 1928 года. З разглядаемай публікацыі чытач даведаецца, што Зьміцер Жылуновіч пачне адступаць ад ісьціны па самых прынцыповых пытаньнях (магчыма пад уціскам) толькі тады, калі з мэтай аднаўленьня свайго членства ў бальшавіцкай партыі выкажа гатоўнасьць *«прызнаць тое, з чым ня быў згодны, асудзіць тое, што ў душы лічыў правільным і нават пойдзе на напісаньне артыкула «Нацыянал-дэмакраты за працай»* (надрукаваны ў першым нумары часопіса «Камуністычнае выхаваньне» за 1931 г., у якім у крывым люстэрку паказаў змаганьне за беларускую ідэю.

Падобны надлом у поглядах у паводзінах адбыўся таксама ў другога вядомага дзеяча нашага нацыянальнага Адраджэньня, ініцыятара абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі Аляксандра Цьвікевіча. Яго следчыя паказаньні ворганам НКУСа, падрыхтаваныя да друку Уладзімірам Міхнюком, зьмешчаны ў другім і трэцім нумарах часопіса «Полацак» за 1992 год пад загалоўкам *«Ліквідацыя БНР не была манэўрам»*.

Магутным струмянём ільюць ваду на кола нашага нацыянальнага Адраджэньня публікацыі Яэпа Юхо, хаця датычаць яны

пэрыяду сярэднявечча. Аўтар закранае ў іх пытаньні беларускай дзяржаўнасьці, г.зн. якраз тое, ад чаго, калі ня поўнасьцю, дык у вырашальнай ступені залежыць дасягненьне нашым народам поўнага, рэальнага нацыянальнага суверэнітэту. Раіў-бы ўсім тым, хто яшчэ і сёньня сумняваецца ў наяўнасьці ў мінулым, дакладней, у пэрыяд Вялікага княства Літоўскага, у беларускага народу ўласнай дзяржавы, абавязкова прачытаць наступныя яго артыкулы: *«Вуніі Вялікага княства Літоўскага»* (1991, №6-7), *«Кароткі нарыс па гісторыі і права Беларусі»* (1992, №№6-10, 1993, №№1-2). Азнаямленьне з апошнім нават самаму безнадзейнаму пэсімісту дапаможа пазбавіцца ад памылковай думкі (а яна, на вялікі жаль, усё яшчэ пануе ў галовах многіх людзей, прычым і з вышэйшай адукацыяй), што беларускі народ нібыта сам няздольны стварыць сваю ўласную дзяржаву й упершыню займеў яе з ласкі бальшавікоў ажно толькі пасьля 1 студзеня 1919 года ў асобе БССР. А ёю-ж, дзяржавай, у чым нельга не пагадзіцца з аўтарамі былі ўжо ў IX—XIII стст. Полацкае, Менскае, Тураўсаке, Пінскае, Берасьцейскае, Горадзенскае, Новаградзкае й іншыя княствы. Бясспрэчна, беларускай дзяржавай зьяўлялася і Вялікае княства Літоўскае. Істотна дапаўняе нашыя веды па данай праблеме артыкул Анатоля Грыцкевіча *«Узьнікненьне фэўдальных дзяржаваў беларусаў у працэсе ўтварэньня дзяржаваў у славян»* (1993, №8). Зьместам такіх артыкулаў вучоныя-гісторыкі станоўча ўплываюць на фармаваньне нацыянальна-дзяржаўнай самасьвядомасьці беларусаў, якая ў выніку шматгадовай ідэалягічнай апрацоўкі іх камуністычнай партыяй зусім не адпавядае патрабаваньням нашага часу. Для гэтага, бясспрэчна, патрэбны публікацыі па праблеме беларускай дзяржаўнасьці і па пэрыядзе, калі наша рэспубліка ўваходзіла ў склад СССР. Такія публікацыі яшчэ ня выйшлі на старонкі разглядаемага мною пэрыядычнага выданьня. Але, думаецца, што рэдакцыя чакае іх ад сваіх аўтараў і з ахвотаю надрукуе.

Належнае асьвятленьне на старонках часопіса «Полацак» знайшла і праблема рэлігійнага жыцьця беларусаў, што дапамагае ліквідаваць нашую яшчэ і па сёньня вялікую недасьведчанасьць у гэтым. Зразумела,не па сваёй віне. «Дзякаваць» за дрэннае веданьне месца рэлігіі ў нашым жыцьці трэба перш за ўсё савецкай палітыцы атэізму,якая насаджалася людзям ужо зь іх дашкольнага ўзросту. Першым павёў сур'ёзную гаворку з чытачом Сяргей Тарасаў у артыкуле *«Адкуль пайшло хрысьціянства ў Беларусі?»* (1991, №10). Пад час яго надрукаваньня пасьпелі адгучаць сьвяты з нагоды 1000-годзьдзя хрышчэньня Усходняй Эўропы, якія падштурхнулі многіх дасьледчыкаў гісторыі рэлігіі да актывізацыі сваёй дзейнасьці на гэтай цікавай дзялянцы навукі. Але як і раней, так і на гэты раз асьвятленьне пытаньняў гісторыі хрысьціянства не было вольным ад памылак, паколькі многія аўтары кіраваліся тут пэўнымі палітычнымі матывамі, сьвядома скажалі факты, чаго ніяк не скажаш пра публікацыю Сяргея Тарасава. Вельмі пераканаўчымі падаюцца яго меркаваньні, што хрысьціянства ў Полацкім княстве было вядомым яшчэ да прымусовага хрышчэньня ў 988 годзе князем Уладзімірам кіяўлян у водах Дняпра, што гэтую веру спавядала дачка князя Рагвалода Рагнеда,што палачане прымалі хрышчэньне ня толькі ад Кіева, таму і не заўсёды знаходзіліся ў залежнасьці ад яго ў пытаньнях веравызнаньня. Не выклікае пярэчаньня і тлумачэньне Сяргеем Тарасавым прычын трывалых пазіцыяў па-

ганства ў Полацкім княстве і ў час, калі ўжо поўным ходам ішла яго хрысьціянізацыя. Перакідваючы масточак у сучаснасьць, ён слушна заўважае: *«...агульначалавечыя, агульна-гуманістычныя Божыя словы тым хутчэй дойдуць да душы народу, чым хутчэй загучаць яны на мове народу з царквы»*, што, думаю прыме ўсякі, хто жадае бачыць сваю Бацькаўшчыну адроджаным краем. Шэрагам цікавых артыкулаў адгукнуўся «Полацка» і на такую важную падзею, як тысячагодзьдзе з дня заснаваньня Полацкай япархіі. У першую чаргу тут трэба спаслацца на публікацыі Юрыя Штыхава *«Аб стварэньні Полацкай эпархіі»* і Міколы Ермаловіча *«Полацкая эпархія й яе роля ў пачатковай гісторыі Беларусі»*, зьмешчаныя ў першым нумары за 1992 год. Зьвяртае ўвагу, што ніводзін з гэтых аўтараў не называе Полацкую япархію праваслаўнай. I яны маюць рацыю, бо канчатковае падзяленьне хрысьціянскай царквы на каталіцкую і праваслаўную адбылося на некалькі дзесяцігодзьдзяў пазьней, як была закладзена Полацкая япархія, — у 1054 годзе. Як далей разьвівалася рэлігійнае жыцьцё, вельмі добра паказана, хаця ў занадта сьціплай форме, у артыкуле Юрыя Штыхава *«Асноўныя этапы гісторыі Праваслаўнай царквы ў Беларусі»* (1992, №8).

Як вядома, ад даўняга і да сёньняшняга часу беларусы зьяўляюцца народам поліканфэсычным, таму можна рэкамендаваць часопісу, акрамя асьвятленьня праваслаўя і каталіцтва паказаваць жыцьцё вернікаў вуніяцкай і евангеліцкай цэркваў. Дарэчы, у 1993 годзе адзначаліся 440-я ўгодкі Рэфармацыі ў Беларусі, пра што ні адной, нават нязначнай паводле аб'ёму, публікацяй не адгукнуўся «Полацак». У 1996 годзе спаўняецца чатырохсотгодзьдзе ад часу падпісаньня Берасьцейскай царкоўнай вуніі, у гісторыі якой так багата чаго незразумелага і заблытанага. У апошнім згаданым артыкуле Юрыя Штыхава ёсьць такая бясспрэчная думка: *«Без глыбокага вывучэньня канфэсыйных пытаньняў нельга напісаць сапраўдную, праўдзівую гісторыю Беларусі»*. Знаёмства са зьместам матэрыялаў часопіса «Полацак» сьведчыць, што ён за аб'ектыўнае асьвятленьне ўсяго таго, што датычыць мінулага і сучаснага Бацькаўшчыны, таму зусім лагічным тут будзе пашырэньне на яго старонках рэлігійнай тэматыкі за кошт паказу ўсіх канфэсыяў, да таго-ж ня толькі хрысьціянскіх. Бясспрэчна, часопіс з назвай «Полацак», якая гэтак да многага абавязвае яе выдаўцоў, ніяк не павінен абыходзіць увагай усяго таго, што датычыць нашай гісторыі, прычым і самай старажытнай. I яны ёсьць. Тут, бадай, першынство трымае добра вядомы сярод беларусаў метраполіі, блізкага і далёкага замежжа Юры Штыхаў. Акрамя ўжо вышэй разгледжаных яго артыкулаў, можна яшчэ назваць наступныя: *«З гісторыі вывучэньня крыжа прэпадобнай Еўфрасіньні» (1992, №6), «Палітычны лад Полацкай дзяржавы ў X—XIII стст.» (1993, №6), «Аб вонкавай палітыцы Полацкага княства ў X—XIII стст.» (№7).*

Нельга абмінуць дасьледываньня выдатнага навукоўца іканаграфіі Васіля Пуцько, ягоныя артыкулы: *«Аб іконе Багамацеры Эфэскай у старажытным Полацку (1991, №8), «Крыж Еўфрасіньні Полацкай і ўзьдвіжальныя крыжы XII—XIII стст. (1992, №4), «Жыровіцкая ікона Божай Маці (1993, №4).*

Стагодзьдзямі вучоныя вядуць паміж сабою гарачыя спрэчкі адносна найбольш прынцыпова важных пытаньняў этнічнай гісторыі нашага краю, таму зусім апраўдана, што такога роду публікацыям ахвотна даюць месца і выдаўцы часопіса «Полацак».

3 салідным артыкулам па данай праблеме: *«Да пытаньня прыналежнасьці старажытных ліцьвіноў»* на працягу больш чым года выступаў Паўла Урбан. У Паўла Урбана шмат арыгінальных думак, зь якімі мне не даводзілася сустракацца ў іншых навуковых працах, ці якія ў чымсьці адрозьніваюцца ад ужо ўсталяваных поглядаў. А інакш і быць не павінна, бо аўтар, выкарыстаўшы безьліч розных, і часта вельмі рэдкіх, літаратурных крыніц, проста ня мог не сказаць па данай праблеме чагосьці новага і слушнага. Аднак, усе кропкі над «і» яшчэ не прасталены Паўлам Урбанам адносна этнічнай прыналежнасьці старажытных ліцьвінаў і славянаў, хаця і зроблена нямала ў гэтым накірунку. У нястомнага дасьледчыка даўніны знойдуцца апаненты і было-б вельмі добра, каб часопіс «Полацак» прыцягнуў іх на свае старонкі. Патрэба ў такіх публікацыях вельмі велізарная, таму што і сёньня з чыста палітычных меркаваньняў распаўсюджваюцца зусім ненавуковыя погляды аб этнічнай гісторыі беларусаў.

Як і ўсе беларускія часопісы, «Полацак» не абыходзіць увагай самыя балючыя ў нашым жыцьці старонкі Другой сусьветнай вайны, якая так па рознаму, але ва ўсіх выпадках вельмі балюча, жорстка паласавала наш жывы нацыянальны арганізм, унесла разлад у яго цела. Істотным дапаўненьнем да ўсяго таго, што нам вядома пра вайну, зьяўляюцца «Уласнаручныя паказаньні Езавітава Канстантына Барысавіча» (1992, №6—10, 1993, №№1-4), адшуканыя Уладзімірам Міхнюком і Якавам Паўлавым у архівах КДБ Рэспублікі Беларусь. Напярэдадні вызваленьня нашага краю з-пад нямецкай акупацыі К.Езавітаў быў уключаны ў склад Беларускай Цэнтральнай Рады, браў удзел у канцы чэрвеня 1944 года ў працы II Усебеларускага Кангрэсу, а затым выехаў у Рыгу, адтуль — у Нямеччыну, дзе займаўся пытаньнямі арганізацыі беларускага войска, у студзені 1945 года быў абраны начальнікам ваеннага аддзела ў складзе Калегіі (урадзе) Беларускай Цэнтральнай Рады. Каго цікавіць гэтая з надзвычай багатай біяграфіяй асоба, рэкамендую прачытаць: *«Протокол допроса Константина Езовитова»* (1993, №5) і артыкул Уладзіміра Брылеўскага *«Сустрэча з Канстантынам Езавітавым»* (1993, №6).

Акрамя салідных,—вядома, з пазыцыяў плошчавай магчымасьці часопіса «Полацак» —артыкулаў шмат ён зьмяшчае і дробных, якія, карыстаюцца вялікай зацікаўленасьцю ў чытача, бо дапамагаюць яму лепш ведаць мінуўшчыну сваёй роднай Бацькаўшчыны. З ліку такіх артыкулаў хацеў-бы назваць наступныя: Уладзімір Арлоў *«Вяртаньне сьвятыні»* (1991, №4, пра Еўфрасіньню Полацкую), Ірына Масько «Фальшываманэтчыкі старажытнага Полацка» (1991,№4), Сяргей Тарасаў *«Вялікі пасад у Полацку»* (1991, №5), Вольга Дадзіёмава «Аркестравае выканальніцтва Беларусі» (1991, №6-7), Людміла Дучыц *«Як апраналіся нашыя продкі»* (1992, №3), Аляксей Мельнікаў *«Жыціе і жыцьцё сьвятое Еўфрасіньні Полацкай»* (1992, №4), а. Міхаіл Уляхін *«Духоўнае значэньне крыжа прэпадобнае Еўфрасіньні»* (1992, №4), Лявон Калядзінскі «Храм сьв. Міхаіла зь Віцебска» (1992, №4) Валеры Касмылёў *«Манэтныя двары на тэрыторыі Беларусі»* (1992, №9), Валеры Герасімаў *«Бібліятэкі на беларускім шляху Адраджэньня»* (1993, №7-8), Уладзімір Содаль «Полацкая кнігарня» (1993, №9).

Не адкрыю сакрэту для тых, хто рэгулярна чытае часопіс «Полацак», што яго тэматыка пераважна гісторыка-культуралягічная. Ніхто ня стане выказвацца супраць яе, улічваючы, які і па сёньня існуе ў нас голад на сур'ёзныя публікацыі па гісторыі

і культуры Бацькаўшчыны. Такі-ж голад зьведваецца і на публікацыі аб мінулым і сучасным жыцьці беларускай дыяспары, хаця на іх вельмі ахвотна адгукаюцца выдаўцы разглядаемага часопіса. Усё, што зьмешчана аб ёй, прачытаў зь вялікай зацікаўленасьцю.

Шукаў у часопісе «Полацак» матэрыялы і яшчэ па адной назвычай актуальнай праблеме, якой ніяк нельга абыходзіць сёньня. Гэта—уладкаваньне нашага няпростага эканамічнага жыцьця. Дзяржаўныя дзеячы і вучоныя ня першы год б'юцца над выхадам краіны зь цяжкага эканамічнага крызісу, а ён набірае усё больш пагражальны характар. Адна з прычын—няўменьне жыць паводля законаў рыначнай эканомікі, на чым амерыканцы ўжо даўно «зубы зьелі». Не сумняваюся, што дасканала разбіраюцца ў ёй і нашыя суродзічы ў ЗША, сярод якіх ёсьць і вучоныя, і прадпрымальнікі. Дык чаму-ж ім разам са сваімі калегамі зь Беларусі не паспрабаваць падыскутаваць па даннай праблеме? Звыклы ўжо больш чым трохгадовай тэматыкі часопіса «Полацак» чытач не пакрыўдзіцца за гэта на яго выдаўцоў. Да таго-ж яны ўжо першы крок зрабілі да вынасу эканамічнай тэматыкі на старонкі часопіса, зьмясьціўшы ў яго 9-10 нумарах за 1993 год артыкул І. Нікітчанкі *«Аб галоўных прычынах крызысу сельскай гаспадаркі ў Беларусі»*. І. Нікітчанка —вучоны-эканаміст працуе ў Беларусі. Яго погляды ў многім супадалі з тым, што рэгулярна выказваецца ў сродках масавай інфармацыі. А вось як глядзяць на нашыя архіцяжкія эканамічныя праблемы за мяжой, у тым ліку і сама беларуская дыяспара, якімі ўяўляюцца шляхі выхаду з крызісу, вельмі хацелася-б даведацца многім чытачам, у тым ліку і аўтару гэтых радкоў.

Як чытача і грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, мяне вельмі не задавальняе ўсё тое, што зроблена выдаўцамі газэт і часопісаў у асьвятленьні найвялікшай падзеі ў гісторыі нашага народу—правядзеньні ў ліпені леташняга году ў Менску Першага зьезду беларусаў сьвету. Шмат пісалі толькі пра падзеі, што папярэднічалі яму, прычым пісалі так, як гэта прынята пры падобнай нагодзе: ва ўзьнёслым і ўрачыстым тоне. Але варта было разьехацца, як усё забылася, а калі штосьці й успаміналася, асабліва тут, на Бацькаўшчыне, дык хутчэй у негатыўным аспэкце.

Не поўнасьцю задавальняе мяне і зробленае часопісам «Полацак» у азнаямленьні сваіх чытачоў з матэрыяламі Першага зьезду беларусаў сьвету, хаця тут у яго набыткі трохі багацейшыя, чым у іншых такога роду пэрыядычных выданьнях. Думаю, што чытачамі прыхільна былі-б сустрэты поўныя тэксты выступленьняў на зьезьдзе, публікацыя якіх у паасобнай кніжцы стаіць пад вялікім сумненьнем. У выніку можа быць страчана многае з таго, што заслугоўвае навечна застацца ў памяці гісторыі. Друкаваць такія матэрыялы (па аднаму на нумар) ніколі ня позна, таму што яны не падлягаюць старэньню, ня будуць ведаць страты актуальнасьці. Часопісу «Полацак», як у пэўнай ступені аб'яднальнаму воргану ўсіх беларусаў незалежна ад месца-пражываньня, варта было-б сваімі публікацыямі самым прыстойным чынам адзначыць першую гадавіну Першага зьезду беларусаў сьвету, а ўжо з наступнага распачаць надрукаваньне найбольш цікавых высупленьняў на ім, бо ў нас, наколькі мне вядома, ніхто не займаецца і не будзе займацца гэтай патрэбнай справай.

Хацелася-б зьвярнуць увагу і на такую акалічнасьць. Вось ужо колькі гадоў мы тут у сябе дома вядзем гаворку аб вяр-

таньні хаця-б самага каштоўнага з правапісу беларускай мовы да яго рэформы ў 1933 году. Зьявілася нямала публікацыяў у падтрымку гэтай нацыянальна-патрыятычнай ідэі, а справа практычна не зрушылася зь месца. А вось часопіс «Полацак», як і ўсе пэрыядычныя выданьні беларускай дыяспары, ад першага нумара выдаецца на «тарашкевіцы» і зусім добра ўспрымаецца ўсімі намі,хто ўзгадаваны на «наркомаўцы». Дык ці не падстава гэта, каб нам тут, у сябе дома, быць трохі больш актыўнымі і рашучымі ў аднаўленьні нацыянальных асаблівасьцяў у правапісе роднай мовы?

Нарэшце, спынюся й яшчэ на адной зь вельмі важных адмецін у практыцы выдаўцоў часопіса «Полацак». Гэта—рэгулярнае выступленьне іх саміх на старонках свайго выданьня. Такое ня дужа часта здараецца ў працы рэдкалегіяй часопісаў. А вось рэдактар часопіса «Полацак» Сьвятлана Белая і сакратар Міхась Белямук зьяўляюцца самымі частымі аўтарамі. Апошні зь іх у 1991 годзе прыцягнуў увагу многіх вельмі цікавымі публікацыямі: *«Лісты ад Міколы Ермаловіча»* (№№4-8) і *«Эмблема на шчыце герба «Пагоня»* (№№8-10, і №№1-4, 6 за 1992), *«Загадка царквы пахавальні»* (№7, 1992) .З восьмага нумара 1992 года Міхась Белямук радуе чытачоў «Полацка» артыкулам з працягам «Тапаграфія знаходак манэт і аздобаў», які яшчэ не закончаны й у апошнім нумары 1993 года. Гэта вельмі патрэбная крыніцазнаўчая праца па праблемах нумізматыкі. Вучоныя і краязнаўцы знойдуць у ёй багаты, а падчас малавядомы й унікальны матэрыял аб манэтных і манэтнарэчавых скарбах на тэрыторыі Беларусі і суседніх абласьцей. Аўтар пасьпяхова робіць тое, што па розных прычынах не ўдалося зьдзейсьніць іншым вучоным-краязнаўцам. Пры любой магчымасьці неабходна выдаць гэтую працу паасобнай кнігай, абавязкова трэба пайсьці на такі крок у інтарэсах нашага нацыянальнага краязнаўства

Сьвятлана Белая часта падпісвае свае артыкулы Сьвятлана Менская, Сьвятлана Анатольева. З усіх трыццаці нумароў часопіса я знайшоў толькі адзін безь яе матэрыялаў. Датычаць-жа яны самых розных асьпектаў, але найчасьцей—гісторыка-культуралягічных. Зь вялікай зацікаўленасьцю я—і думаю іншыя чытачы —азнаёміўся з урыўкамі яе будучае кнігі «Максімава Яраславія» (1991, №№3-10), прысьвечанай Максіму Багдановічу.Талент сапраўднай дасьледчыцы паказвае яна ў серыі артыкулаў-успамінаў «Віленскія беларусы расказваюць» (1992, №№2-6, 9,1993, №№1,2,3). Высокай ацэнкі заслугоўваюць і шмат якія іншыя публікацыя, што належаць пяру Сьвятланы Белай.

Верыцца, што выдаўцы часопіса «Полацак» і надалей будуць працаваць у такім - жа напружаным творчым рытме, бо лёс гэтага выдатнага беларускага нацыянальна-патрыятычнага часопіса практычна цалкам залежыць ад іх стараньняў. Часопіс «Полацак» заслугоўвае доўгага жыцьця і павінен надзейна служыць беларускай справе. У якасьці яго аўтара ў трэба запрашаць усіх, каму дарагая Беларусь. У інтарэсах ня толькі папулярызацыі часопіса, але і сцьвярджэньня беларускай нацыянальнай ідэі ў цэлым была-б арганізацыя рэгулярных перадач на рэспубліканскім радыё па аглядзе яго матэрыялаў, бо абсалютная большасьць зь іх заўсёды прысьвечана якімсьці арыгінальнымі, адметным старонкам нашай гісторыі і культуры.

# Слова, аплачанае лёсам

Уладзімір Гніламёдаў

Паэзія Янкі Золака большай часткай стылізавана пад фальклёр, і гэта акалічнасьць нярэдка дапамагае яму выказаць проста і шчыра.

*На руках маіх шмат мазалёў...*
*Хіба-ж іх я саромецца мушу?!*
*Гэта знак, што я ў целе нашу*
*Беларускую чэсную душу.*

Цікава, як для анталёгіі, досыць поўна прадстаўлены М. Кавыль, які прайшоў у надзвычай шмат выпрабаваньняў. Ён помніць паэтыку 30-х гадоў: «Стальлю зьвінець мусіць верш паэта» («Санет»), аднак лепшыя творы М.Кавыля абыходзяцца без «сталі».

*Бы мурашка, не па росту падымаю цяжар,*
*Згібаюся, нясу глытаю пот гарачы.*
*Зьняможаны, паглядаю ў*
*неба, можа, скажа:*
*«Апошняя ступень, адпачні,*
*бядача!..»*
*У небе маўкліня. Цяжка.*
*Паўзі, чалавек—мурашка!*

Глыбокі па вобразу сэнсу верш!

Любоўю да чалавека сагрэта паэзія А. Салаўя —паэта, які таксама шмат пераажыў і здольны быў на спачуваньне да ўсіх пакрыўджаных і абяздоленых. І ня толькі на спачуваньне, але і на асуджэньне зла, пратэст, які гучыць, напрыклад, у вершы «Нішчым»:

*Зусім нішчым. Сухі пясок пустыні*
*ваш ідэал. Мякіна—мозаг, кроў.*
*Пабачыў вас —на коўзкай лёднай строні*
*бязродны гурт скапычаных кароў.*
*Апошні раз у высь нябёснай сіні*
*ваш правадыр—ваш бык на скон зароў.*
*На баўтунох вы селі за квактуху,*
*курчат няма—вось наша сіла руху.*

Калі-б, вы думалі, было гэта напісана? У 1947 годзе.

Цікава чытаць яго паэму «Домік у Менску». Праўда, рытміка, напэўнасьць часта бяруць у ёй уладу над радком, і ад гэтага губляецца лірычны пафас.

Паэзія Анатоля Бярозкі лірычна-філёзафічная. У ёй ёсьць ўсё: настальгія і захапленьне, смутак і расчараваньне, радасьць і трагізм.

*Абяздолены мой стромы шлях*
*аніколі не даваў мяне да шчасьця—*
*і трывога тоіцца ў грудзях,*
*каб бясследна не прапасьці.*
*І кляну я горкі лёс ліхі.*
*і напружваю ў зьнямозе сілы....*
*Ці-ж вядуць мае самотныя шляхі*
*да забытае, бяскрыжае магілы?*

Пятнаццаць абраньнікаў паэзіі, якія сышліся ў гэтай прадстаўнічай кнізе (іх, вядома, значна больш), вельмі розныя як людзі і як мастакі. Найбольш буйныя на мой погляд, Натальля Арсеньнева і Масей Сяднёў. Ня толькі, дадам, буйныя, але ў многім і супрацьлеглыя. Зрэшты, пра гэта —па часе.

Тут асабліва выразна відаць, што паняцьце «Туга па Радзіме» усё-ж такі вузкае для вызначэньня абсягаў іх творчасьці. Прыгадваецца хутчэй выслоўе нямецкага рамантыка Наваліса: *«Паэзія ёсьць адлюстраваньне душы—унутранага сьвету ў яго цэласнасьці»*, —яно дакладна характарызуе творчыя прынцыпы Н. Арсеньневай і М.Сяднёва.

Жыцьцёвы і творчы шлях Н.Арсеньневай у самых агульных абрысах вядомы. Пачынала яна па-руску. У Віленскім архіве да гэ-

Заканчэньне. Пачатак у №1(31), 1994

тага чсу перахоўваюцца два яе сшыткі вершаў на рускай мове (зьвесткі пра гэты факт ласкава паведаіў мне І. К. Цішчанка). Аднак, відаць, непадманная прырода таленту зьвярнула яе (можа, не без дапамогі М. Гарэцкага — у той час настаўніка Віленскай беларускай гімназіі) да роднага слова. Ужо адно тое, што яна пісала па-беларуску, зьяўлялася выклікам польскім акупацыйным уладам, якім, зрэшты, яна нічым не пагражала і не імкнулася да гэтага. Яе паэзія была зьвернута не так да жыцьця, як да яго сэнсу, да таго, што прыхавана ў яго патаемных глыбінях. У паэтычнай творчасьці аўтарка бачыла магчымасьць эстэтычнага самавыяўленьня,якое, не ўтоім, часам выглядала даволі вузкаватым, камерным.Аб'ект пошукаў паэтэсы—*прыгажосьць*, якую яна аднак знаходзіць ня столькі ў сьвеце чалавечай чыннасьці, колькі ў эстэтычным багацьці навакольнай прыроды. Прырода ў яе супрацьстаіць сьвету грамадзкай неўладкаванасьці і супярэчнасьцей.

*Ад злых, нявeтлых песьяў гора,*
*ад збораў шэрае зямлі,*
*у неба сіню, у неба мора*
*ты зрок прысталы падымі.*
(Пад сінім небам)

Прырода надзелена чарадзейнай сілай, здольнай узыдмаць чалавечы дух, лячыць жыцьцёвыя раны.

Горад цісьне на яе цяжарам сваіх шэрых муроў, сьлепіць стракатасьцю рэклам, атручвае бензінавай гарай: *«мы слухаем воўчае песьні сірэнаў і гоману крам, дзе скрозь запаляецца й чэзьне зьдзічэлая чырвань рэклам»*. Вядома, гэта быў не сацыяльны пратэст, а хутчэй эстэтычнае непрыняцьце тлумнага гарадзкога пэйзажу і побыту. За межы чыста эстэтычнай праблематыкі паэзія Н.Арсеньневай выйшла ў ваенны і паваенны час (у зборніку «Туга па Радзіме» прадстаўлена яе творчасьць і гэтых пэрыядаў.

*Каб не мова, даўно-б мы растаялі,*
*расплыліся-б імглой між чужых,*
*збеглі ў вырай гусінаю стаяю...*
*Але з мовай — і мы будзем жыць,—*

пісалал яна ў вершы «Жыве Беларусь» (1942), пераклікаючыся ў нечым зь вядомымі радкамі Г.Ахматавай, створанымі таксама ў часе вайны: *«И мы сохраним тебя, русская речь// Великое русское слово»*.

Гэта, відаць, уласьцівасьць унутранай прыроды жанчыны, здольнай у крытычнай сітуацыі больш, як хто адчуць жыцьцёвую вартасьць аснаватворных каштоўнасьцей свайго «роду».

Некалі ў Арменіі я чуў расказ пра жанчыну, якая, вяртаючыся з турэцкага боку, паклала ў мяшок ня што-небудзь самае, на першы погляд, неабходнае, а старую кнігу, у пуд ці болей вагою, і прынесла яе на Радзіму. Ды і ў нас на Берасьцейшчыне, помню, калі ў хрушчоўскі пэрыяд разбуралі цэрквы, дык старыя царкоўныя кнігі і паперы хавалі па каморахі куфрах жанчыны-прыхажанкі.

Вернемся да «Тугі па Радзіме». Як паэтэса, Арсеньнева і ў ваенны час пазьбягае павярхоўнай злабадзённасьці і непасрэдных сувязьзяў з рэчаіснасьцю. Хіба, можа, баялася, што дзеля гэтага давядзецца ахвяраваць некаторымі мастацкімі якасьцямі сваёй паэзіі. Але, нягледзячы ні на што, творчасьць застаецца справай яе жыцьця., сумленьня, грамадзянскасьці. Многія творы пэрыяду вайны ўспрымаюцца сёньня як малітва за Беларусь. Адзін зь вершаў так і называецца —«Малітва».

*Магутны Божа! Уладар сусьветаў,*
*вялізных сонцаў і сэрц малых,*
*над Беларусяй ціхай і ветлай*

*рассып праменьне Свае хвалы.*

Духоўнае і «мірское», «сьвецкае» ў гэтым творы паяднаны адной паэтычнай думкай пра лёс роднага краю і яго народу. «Малітва» сьведчыць, што Н.Арсеньнева зьяўляецца прыхільніцай хрысьціянскай канцэпцыі, згодна якой чалавек, істота і часавая, і адначасова пазачасавая, пранізаная ня толькі токамі сёньняшняга дня, але іх вечнасьці.

У пасьляваеннай яе лірыцы адлюстроўваўся лёс эміграцыі, якая апынулася за межамі роднага краю («Сьнежань, «Ён знайшоў» і інш.) Уласьцівы ёй спантаны лірызм, імкненьне да духоўнай прасветленасьці выявіліся ў вершах аб прыродзе, пейзажнай і інтымнай тэматыцы. Паэтэса застаецца сама сабой.—Гэта відаць, напрыклад, у вершы «Гары, заход!», прасякнутым яе асобай, светаадчуваньнем:

*Гэта-ж, гары, заход,*
*як мо гарэў спрадвеку.*
*Я харaство тваё вітаю ўпершыню,*
*і ў чорны змрок раней не ўзьніму павеваў.*
*пакуль сама ўсе сны, увесь чар не перасню!*

Побач з Н.Арсеньевай, буйнейшы паэт беларускага замежжа—М.Сяднёў. Для яго «Спявацъ на ліры азначае *быць*».(Санет «Арфей»). Гэтак жа магла сказаць пра сябе і Н. Арсеньнева. Але ў М. Сяднёва больш таго, што ідзе якраз ад непасрэдных сувязьзяў з жыцьцём,—фактаў, прыпамінаў, дэталяў, падрабязнасьцей, уплеценых у жывую тканіну паэтычнага радка.

Словам, жыцьцё для яго таксама, як і для Н. Арсеньнева, не што іншае, як цуд, містэрыя, поўная загадак і таямнічай красы, аднак паэзія М. Сяднёва больш насычана праявамі звычайнага, паўсядзённага, у ім ён умее адкрыць другі, незвычайны плян. Лампадка, што гарыць у капліччы, сімвалізуе для паэта жыцьцё, яго таямнічасьць і безабароннасьць (верш «Лампадка»).

Радок яго здаецца лёгкім, аднак гэта лёгкасьць уяўная,—слова паэта важкае, нагружанае глыбокім сэнсам, засьведчаным асабістым вопытам.

*І цьвіў па градах мак,*
*І піў ваду я з лосем,*
*аж покуль цела ўсмак*
*муроў не напілося.*
*(*** Баюся тых дарог...)*



*Масей Сяднёў і Сьвятлана Белая.*
*Кастрычнік 1991 г. Глен Коў*

Вобразны пачатак разьвіваецца не праз пошукі смелых, але, як гэта часта здараецца, даволі выпадковых і павярхоўных асацыяцыяў, а шляхам больш глыбінных і натуральных абагульненьняў.

У вершы «Здрайцам» паэт зьвяртаецца да сваіх крыўдзіцеляў, што засадзілі яго за краты.

*Чакайце-ж вы, сляпыя совы,*
*не смейцеся, што я ў мурах.*
*Як перуном, адзіным словам*
*вас разнясу я ў пух і прах.*

Сказана моцна, тэмпераментна, але натуральна, без крыку, без перанапружаньня голасу.

Масей Сяднёў—гэта перш за ўсё асоба, у якой арганічна спалучаные сваё, прыватнае з агульным і супольным.

Глыбокім перажываньнем нацыянальнай гісторыі пазначаны, напрыклад, верш «Крывічом», створаны, як сведчыць надпіс над ім, на Калыме: *«нібы дзеці забітых ваўчых// не спазнаўшыся добра з гняздом, // па дарогах мы ходзім чужых// і не знаем, дзе хата, наш дом».*

Непрыветна сустрэла яго /як і іншых/ разбураная вайной Нямеччына, але сваёй чалавечай сутнасьці, здольнасьці на суперажываньне паэт ня траціў.

Праз жабрака,што стаіць на вуліцы, раўнадушна праходзяць «паны і дамы».

*Прабач, жабрача, ім, Як ты,*
*з табой я стану каля брамы,*
*каб весялей было табе. «Браты».*
*падумаюць паны і дамы.*
*(«Жабраку»)*

У паэзіі М. Сяднёва няма шумных і галасных заклікаў і адозваў, а ёсьць пастаянная і крапатлівая работа душы. Гэтая паэзія застаецца ў маральнай сваёй аснове паэзіяй хрысьціянскай, што аднак не азначае зьнікненьня яе чыста жыцейска-людзкіх якасьцей.

Во урывак зь верша «Малітва», у якім характар паэта выступае асабліва рэльефна:

*Каб шчасьце у кутку маім вялося,*
*як птушка ценькая пад ветлым дахам,*
*каб хлеб і соль былі, а ўвосень*
*вятры не білі акяніцамі з размахі,*

*Каб сьцерпець абыякавасьць чужыны,*
*суродзічаў пыхлівых холад думны,*
*патрыятычную іх сліну,*
*парадны тупат тлымны.*

*Каб пры канцы шляхоў маіх далёкіх,*
*што не ўкладаюцца ні ў версты і ні ў мілі,*
*не помнячы грахоў і крыўдаў лёгкіх,*
*прыхільныя багі мяне багаславілі.*

Масею Сяднёву, як і Н.Арсеньневай, уласьціва глыбокае пранікненьне ў сьвет навакольнай прыроды, аднак падыходы ў іх розныя.

Успомнім верш Арсеньневай «Тут гэткае завуць зіма». Ніхто не зьвяртае ўвагі на прыгажосьць зімовага парку, на цудоўныя карункі зь мёду і сьнегу:

*Ніхто не плясьне,*
*бо й хто тут мае час*
*зірнуць на Божы сьвет адкрытымі вачыма?*
*Імкне натоўп, і енчаць і вішчаць*
*машыны ў гоне, міма, міма, міма...*

Гэта не такі просты верш, як здаецца на першы погляд. Вартасьць яго ў тым, што ён закранае аналягічную глыбіню нашага вопыту й істоты, тыя перажываньні, якія складаюць неад'емную, родасную ўласьцівасьць душы. Паэтэса ўражана і зачаравана хараством!

Вядома, паэт на тое і паэт летуцьценік, мройнік, сузіральнік, каб вастрэй, чым хто, адчуваць хараство і любавацца ім, што і знаходзім у вершы Н.Арсеньневай. Але далей гэтага любаваньня яна па сутнасьці не ідзе. Прыгажосьць быццам закалыхала яе, спарадзіўшы на нейкую нерухомасьць і застыласьць.

Нешта іншае назіраем у М. Сяднёва. Паводля яго паэтычнай філясофіі, прыгажосьць па-за рухам, па-за ўчынкам, прыгажосьць, якая ня будзіць жаданьняў, не выклікае імпульсу энергіі,—не дае належнага душэўнага плёну. Яна —даводзіць паэт—павінна быць зьвязана зь дзеяньнем, з нейкай мэтаімкнёнасьцю,так, каб адно абумоўлівала другое. Прыгажосьць выклікае ў ім унутраны рух насустрач.

*Пад вечар дрэвы сьцішыліся ў парку гэтак.*
*быццам яны хацелі падслухаць,*
*якая песьня пра іх нараджаецца на маіх вуснах.*

Нешта ў гэтым сэнсе дала М. Сяднёву й амэрыканская паэтычная традыцыя, паводля якой сузіральнасьць і роздум дапаўняецца ўстаноўкай на рух да дзеяньня і творчасьці.

У лірыцы М. Сяднёва шмат драматычных сюжэтаў. З братоў-паэтаў ён, напэўна, самы псіхалягічны,у яго вершах адбіваецца рэальнасьць эмацыянальных паводзін чалавека, яго ўнутраных абліччаў і жэстаў.

*Едзеш ты. Ці-ж магчыма?—*
*Дождж, імгла і вятры.*
*Вочы некуды міма—*
*абатры.*
*Засталася часіна—*
*памаўчым*
*Вочы сінія—дым.*

Чалавек у яго, заўважце, гаворыць сваёй мовай, сваімі словамі—з гэтай мэтай некалькі паслаблена роля рытму і рыфмы. Угадваецца салідная паэтычная школа.

Сучасная проза, якая перажывае пэрыяд стагнацыі, павінна была-б глядзець на паэзію М.Сяднёва, вучыцца ў яе шчырасьці, дакладнасьці, тонкасьці псыхалягічнага малюнка, а галоўнае—ёмістасьці мастацкага абагульненьня.

Часам чуеш: ня трэба дзяліць нашу літаратуру на айчынную й эмігранцкую. І я з гэтым згодзен. Прынамсі, укладваць у гэта палітычны сэнс нельга.Паэты-эмігранты не палітыкі. Але што тычыцца ўсяго астатняга, дык розьніца ёсьць і немалая. Ці магчымыя былі-б такія паэты, як Натальля Арсеньнева і Масей Сяднёў на беларуска-савецкай глебе? Дз. Чаркасава («Голас Радзімы») у рэцэнзіі на зборнік «Туга на Радзіма» піша, «*што літаратура з-за мяжы паўней і больш усвядомлена наступала нацыянальнымі ідэямі і нацыянальным духам, чым многае са створанага на Бацькаўшчыне*».

І з гэты, скажу я вам, цяжка спрачацца.

За кнігу «Туга па радзіма» мы павінны быць удзячны й яе складальніку Б.Сачанку —вядомаму нашаму празаіку і бібліяфілу. Нажаль, не ўсе задаволены гэтай ягонай работай. Радыё «Свабода» (дарэчы, чаму ня «воля»—па-беларуску?) сказала нават, што ён прывёў паэтаў-выгнанцаў пад ідэалагічным канвоем і без мяккіх знакаў.

Дарэмна! Вось тут недзе і пачынаецца палітыка...

Што тычыцца прадмовы, дык тут, магчыма, ёсьць некаторыя недакладнасьці. Я, напрыклад,не лічу,што іх пакрыўдзіла, скажам, Амэрыка. Наадварот, яна дала ім прыстанішча, стала другой радзімай. Гэта думка павінна была прагучаць і ў прадмове.

Можна,вядома, пажадаць,каб такое выданьне суправаджалася нейкім больш разгорнтым каментарыем, больш падрабязнымі біяграфічнымі даведкамі. Гэта — на будучае: пакуль што мы толькі прыступаем да асваеньня літаратуры і культуры сьвету беларускай эміграцыі. Такім чынам, кніга «Туга па Радзіме» —зьява ў нашай сучаснай паэзіі і ва ўсёй літаратуры. Яна нас узбагачае і многаму вучыць.

# Із агню ды ў полымя

Міхась Кавыль

*(Быліца шаснаццатая)*

Яраслаў Вярбіцкі як ні прасіў сястру Маню, каб яна не надзявала яму пятлю на шыю, нічога не дапамагло:мусіў ізноў везьці ў лес.

Сядзела яна, як і некалькі разоў да гэтага, у яго пад нагамі. Жандармы і на гэты раз кабіну не правяралі, паглядзелі толькі «аўсвайс». Маня, як толькі дабралася да лягеру, адразу пайшла ў шалаш Новіка, аддала яму ліст Язэпа Лабача і паведаміла, што яна была ў беларускім тэатры, нагледзела мейсца, дзе можна будзе пакласьці міну. Праўда, яна папярэдзіла Новіка, што на яе думку, міна наўрад ці ўзарве ложу, бо яна вельмі высока ад зямлі, хіба што падчапіць міну за бэльку. «Гэніяльная думка, таварыш Вярбіцкая. Так і зробім».

Маня ажно падрасла ад пахвальбы начальніка, а ён спытаў: «А калі маецца адбыцца прэм'ера,ты пацікавілася?» Маня гэтым пытаньнем ня цікавілася, але прыпомніла, як Віктар Лабач угаварваў сваю Веру пайсьці ў наступную нядзелю ў тэатр на сьпяктакль. Наступная нядзеля прыпадала на 22 чэрвеня. І Маня сказала: «У нядзелю, 22». Новік падзякаваў яе за «выдатную работу» і адпусьціў. Ён расхіліў ліст Язэпа Лабача, стаў чытаць.Нечакана зьявіўся Барыс Сечкін. Ён быў злосны, як заўсёды, вылаяў апошнімі словамі «тылавых паразітаў», якія «дбаюць толькі пра сваю шкуру», а не пра народных мсьціўцаў, што кожную хвіліну рызыкуюць сваім жыцьцём. «Тры дні і ночы прасядзелі на аэрадроме,— абураўся Сечкін,—спалілі чорт ведае колькі дроў, а ў небе ні слуху, ні духу. Сягоньня я яшчэ схаджу, прасяджу ноч. Калі самалёт і сягоньня ня прыляціць, болей я ня буду свае нервы ірваць, даваць сьветавы сыгнал немцам, каб ізноў па нас улупілі».

Новік слухаў, не пярэчыў, бо ведаў, што нічога не паправіць: Сечкіну хоць кол на галаве чашы, паставіць на сваім. Такі ўжо ў яго характар. За гады працы ў «органах» ён ведаў, як змагацца з «ворагамі народу». Тут-жа самому трэба было сядзець пад дрэвам і пазіраць у неба, ці не заракоча «кукурузьнік». Не яго гэта «хобі».

Новік, каб астудзіць крыху Сечкіна, даў пачытаць яму ліст Лабача. Сечкін, прачытаў, запытаў: «А хто ён, гэты Лабач? Ад'ютант Кушаля, ці халуй Ермачэнкі?»

—Бяры крыху вышэй, каля Кубэ блізка ходіць. Фарштэйн?

—О, тады «фарштэйн». Гэтага паразіта даўно трэба было ўхлопаць.

—Ухлопаем, настане час. Нікуды ён ня дзенецца. Ня мы, дык «мсьціўцы». Цяпержа ў нас тэрміновая задача: заткнуць рот Сэляху. Разумееш, пра што я кажу?

—Фарштэйн. Гэты аэрадом задурыў мне галаву,але ўсё-ж памятаю,пра паведамленьне Лявончыка і Вярбіцкай пра прэм'еру.

—Дык вось, я думаю падключыць да гэтай акцыі Лабача Язэпа,—зманіў Новік Сечкіну, бо ня мог-жа ён сказаць, што хоча заманіць Лабача ў лес і зьнішчыць як свайго асабістага ворага. Да гэтай маны Новік дадаў: «Я паслаў на мінулым тыдні да Лабача Івана Макарэвіча, каб ён «пашчупаў» Лабача, але ён не вярнуўся. А Маня, як ты ведаеш, вярнулася. Яна гутарыла з Лабачом на кватэры Віктара Лабача, брата Язэпа, нашага чалавека. Маня думае, што Язэп ня пойдзе да нас, дык трэба яму даць, «нешта зьдзейсьніць у Менску». А калі ён

выкруціцца ад акцыі ў тэатры, ліквідаваць пры дапамозе яго сябра Васіля Васілеўскага.

—Так, гэта ўсё добра, але гэта ўсё пляны. Канкрэтна-ж мы нічога яшчэ не зрабілі.

—Будзем рабіць. Вось, пойдуць Маня і Лявончык на «Пана міністра» 22 чэрвеня. Думаю, будуць там у ложы і нямецкія «лідэры» і паляцяць яны ўверх тармашкамі. Справа толькі за мінаю. Спадзяюся, штаб сваё абяцаньне выканае: не сягоньня, дык заўтра падкіне нам пару танкавых мінаў.

—А калі не падкіне?

—Ня наша будзе віна

—Ну, пайду на аэрадром, можа збудуцца твае словы, Алёша.

Калі Сечкін выйшаў, Новік пасядзеў крыху задумёны, а пасьля нібы прачнуўся і пайшоў да дзяўчат. Дзяўчаты сядзелі пад густой арэшынай, пераліваlі з пустога ў парожняе. Паклікаўшы да сябе Лізу, сказаў:

—Сёньня пойдзеш ў Менск. Лабача Язэпа ведаеш?

—Ведаю. Разам вучыліся ў Белпэдтэхнікуме.

—Адрас яго ведаеш?

—Не.

—Карла Лібкнехта, чатыры.

—Гэтую вуліцу я ведаю добра. Што я мушу рабіць?

—Мусіш перасяпаць з Лабачом, болей нічога.

—Гэта складаная задача. Я зь ім блізка не сутыкалася. Ён прыгожы хлопец, падабаўся мне, але ён ня ведаў пра гэта, на мяне не зьвяртаў увагі.

—Цяпер зьверне, бо як мне вядома, нікога ня мае. Ты пастарайся спаткаць яго ў Тэатральным сквэры, як будзе вяртацца з працы.Ён працуе ў былым будынку ЦК КПБ(б). Спаткайся, павітайся, пабалакай, прызнайся, што ты яго калісьці кахала. Адным словам, затумань яму мазгі, праводз яго да кватэры. Калі не запросіць зайсьці да яго, напрасіся паглядзець, як ён жыве.

—Пастараюся, таварыш начальнік.

І Ліза пастаралася. Яна не пайшла ў тэатральны сквэр, як навучаў яе Новік, а адразу да Язэпа на кватэру. Пайшла, каб расказаць яму ўсю праўду і папрасіць, каб дапамог атрасьціся ад ўсёй гэтай бяды, якая на яе навалілася. Ужо вечарэла, калі яна зайшла ва двор, пастукала ў дзьверы, але ніхто не адгукнуўся. Доўга стаяла Ліза ў кутку, каля дзьвярэй, чакала Язэпа. Замест Язэпа дачакалася Валянтына. Ён па даручэньню начальніка Смаленскага СД сачыў за домам, дзе жыў Яэп, каб злавіць партызанаў, якія меліся да Язэп а прыйсьці. Для гэтага Валянтын «пристаў у прымы« да ўдавы Марыі Гусак, што жыла ў тым самымы двары, дзе жыў Язэп. Вокны дому Марыі глядзелі на двор. Валянтын жыў на другім паверсе і праз вакно ўбачыў Лізу. Яна спалохалася, памкнулася ўцякаць, але Валянтын злавіў яе.

Прайшло некалькі дзён. Новік уключыў радыё, каб паслухаць у шэсьць гадзінаў вечара «брахню беларускіх калябарантаў». Як заўсёды пасьля шуму і трэску пачуўся знаёмы напеўны голас дыктара: *«Дарагія браты і сёстры. Хаця зараз ідзе вайна, грымяць гарматы й аўтаматы, гінуць жаўнеры і нежаўнеры, а ў Менску сталінскія мсьціўцы забілі беларускага патрыёта Фабіяна Акіньчыца, мы, змагары за вольную Беларусь, ня спынімся на шляху адраджэньня, на дадзеным адрэзку часу нашай культуры. Хачу паведаміць, што заўтра, 22 чэрвеня 1943 году ў Беларускім тэатры адбудзецца прэм'ера трагедыі Тодара Лебяды «Загубленае жыцьцё».*

Новік выключыў радыё, узгадваючы: «Казала-ж Маня, што Сэлях рыхтуе антысавецкую агітку на 22-е. Сёньня дваццаць

першае.Можна-б усьпець, каб была міна. Масква, давай міны»,—крыкнуў Аляксей і уключыў ізноў радыё. У гэты час прыйшла Клаша й у Аляксея палягчэла на сэрцы.

Мінула яшчэ дзьве бурлівыя ночы, птушынымі галасамі абазвалася раніца 23-га чэрвеня. Барыс Сечкін у гэты час усё яшчэ сядзеў пад дубам каля кучы ламачча, пазіраў на неба. Нечакана Сечкін натапырыў вушы: у баку Менска пачуўся жаданы гул. Праз пару хвілінаў над пасёлкам Ракаў паказаўся самалёт. Сечкін ад радасьці ажно падскочыў і закрычаў: «Бабаджан, Лявончык распальвайце агонь». Неўзабаве ўзьвіўся клубок дыму й языкі чырвонага полымя. Самалёт нізка праляцеў над «аэрадромам». Зь яго пасыпаліся газэты. Самалёт зрабіў круг над пушчай, апынуўшыся над лягерам партызанаў. Ізноў сыпануў, як із рэшата. Памахаўшы «на разьвітаньне» крыльлямі, паляцеў у бок Менску .Сечкін схапіў газэту, прачытаў загаловак: «Минский большевик». «Ах, каб вас якая халера пабрала з вашым «Большевиком»,—вылаяўся маёр-палітрук. Нам міны пазарэз патрэбны, а яны газэткі шпурляюць. Недалёка ад Сечкіна стаяў Бабаджан і нахіляўся над газэтай, круціў галавою, а пасьля да Сечкіна: «Таварыш маёр. Ты бачыла, какой это газет? Не наш это газет, не наш». Сечкін прачытаў толькі загаловак, ад злосьці нічога болей ня чытаў. А Бабаджан прачытаў услых: «Сьмерць бандыту Сталіну». Сечкін вырваў у Бабаджана газэту і скамандаваў: «Пазьбіраць контру і спаліць. Я хутка вярнуся.» І Сечкін з газэтай у руцэ пасьпяшыў да Новіка. Неўзабаве ён быў у штабе. Новік сядзеў на пяньку, нахіліўшыся над газэтай, а каля стала стаяла Клаша,таксама з газэтай у руках.Сечкін гаркнуў:«Дасядзеліся. Далюбаваліся». Новік, зразумеўшы, у чый агародчык кінута гэтае «далюбаваліся» , шмаргануў узаемна па нэрвах Сечкіна паведамленьнем: «А ў Беларускім тэатры 22 чэрвеня адбылася прэм'ера «Загубленага жыцьця». А мы гэтую агітку праваронілі.

—А што я кажу? Далюбаваліся.

—Ты, таварыш Сечкін, мне ня тыцкай гэтымі «далюбаваліся». Я зрабіў усё, што мог. Цяпер ты ідзі ў Менск даставай, а я пайду на аэрадром чакаць самалёта, калі ты такі разумны. Парызыкуй сваёй галавой, як я рызыкаваў.

—Не вялікая рызыка...

—Не вялікая? Ты, бачу, ня чытаў «Минский большевик» дык вось, паслухай: Разгром бальшавіцкага падпольля: *«26 кастрычніка 1941 г. павешана 12 падпольшчыкаў, у тым ліку: К. І. Трус, О.Ф. і В.Шчэрбацевічы і інш.*

*7 мая 1942 году расстраляны 251 і павешаны 28 чалавек, у тым ліку: І. Адамовіч, П. С. Алейчык, А. А. Арндт, І. І Вярбіцкі, Н.Ф. Герасімовіч, Т.В. Глухай, Е.К. Горыц, Н.Т. Дамідэнка, М. Л. Екельчык і шмат іншых.*

*25 верасьня 1942 г. арыштаваны члены Менскага гарадзога падпольнага камітэту: Д. А. Караткевіч, В.К.Нікіфараў, К. І. Хмялеўскі, сакратары райкомаў: Н.Е.Герасіменка зь сям'ёю, І. І. Матусевіч, Н.К.Каржанеўскі, падпольшчыкі: А. Ф. Арндт...»* Усіх пералічаць ня буду, іх каля 25 чалавек, большасьць зьнішчаны. А ў лютым гэтага году 200 патрыётаў праглынула «волшебная флейта». Мяне, як бачыш, яшчэ не праглынулі, а я-ж быў на нарадзе падпольнага камітэту і пасьля арышту камітэту прымаў удзел на нарадзе ў доме 5 на Лугавой вул., дзе стварылі новы камітэт. А ты кажаш.

—Казаў і буду казаць: мала мы зрабілі.

—Яшчэ зробім, ня плач вельмі. Ідзі на аэрадром, чакай. Ёсьць яшчэ , што ўзрываць.

—Чакай, пакуль рак сьвісьне. Ты мяне пераканаў таварыш каманьдзір. Адпраўляюся па назначэньню.

(Працяг будзе)

# Віншую цябе, Беларусь незалежная!

Вайтовіч Галіна

Смела сядзеш за стол, Беларусь, мая мілая,
Як адправіш далёкіх з гасьцей сваякоў.
Вось тады й адчуеш, якая шчасьлівая.
Без сядзеўшых на карку тваім чужакоў.



Стол заставіш ядою сваёй, беларускаю,
Бульбай, хлебам, лядком, каўбасой,
Не сухім малаком і кансервай французскаю,
А здабытай у полі сярпом і касой.

Беларускі народ любіць землю ўмее.
І пара мужыку яе ў рукі аддаць
Ён зямельку сваю, як дзіця абагрэе—
Больш ня трэба панам мужыком кіраваць.

Зацьвіце, закрасуе зямелька спадарская,
Бо душа да яе па другому ляжыць.
Больш ня трэба такая ўлада махлярская,
Дзе працуе адзін, дзесяць з лыжкай стаіць.

Як ня будзеш ты болей калоніяй рускаю,
Наша родная мова наверх усплыве,
Ды ня будзе відаць гультаёў над закускаю—
Беларуская нацыя зноў ажыве.

Мы паднімем свой гонар высока-высока,
Як ня будуць старонку суседзі таптаць.
І тады Беларусь наша будзе далёка—
Усяму сьвету, як зорку Вэнеру відаць.

# ПАМЯЦЬ ЗЯМЛІ

## Мае ўспаміны

Анеля Катковіч

*Аўтарка гэтых успамінаў Анеля Катковіч пражыла складанае жыцьцё. Нарадзілася Анеля ў Будславе ў часе I сусьветнай вайны. Бацькі памерлі,калі Анелі не было 16 гадоў. Дзякуючы дапамозе сям'і Будзькаў, дзяўчына паступіла ў Віленскую Беларускую гімназію,якую закончыла ў 1934 годзе. У гэтым-жа годзе Анеля стала студэнткай Віленскага унівэрсытэту. Праца ў Беларускім Студэнцкім Саюзе загартавалі яе нацыянальна. У часе вайны Анеля працавала перакладчыцай у Беларускай Самапомачы. У 1944 годзе яна разам зь сястрой Верай, працаўнікамі БЦР, Беларускай Самапомачы выехалі зь Беларусі. Пасьля капітуляцыі Нямеччыны, дзякуючы веданьню нямецкай, польскай і расейскай моваў, Анеля ўладкавалася на працу ў Польскай місіі ў Бэрліне. Уладкавалася там і Вера. Разам сёстры рабілі ўсё мажлівае, каб наладзіць сувязь зь беларусамі і па мажлівасьці дапамагчы ім.*

*У нумарах 7(27)-10(30) часопіса «Полацак» мы друкавалі ўспаміны Веры Катковіч. Сёньня мы пачынаем друкаваць Анелін рукапіс, які прыслала ў рэдакцыю «Полацка» Вера Катковіч.Пачатак успамінаў Анелі Катковіч (дзіцячыя і студэнцкія гады) чытач зможа прачытаць у 38-м нумары часопіса «Беларуская Думка»*

У 1948 г. маю сястру Веру раптам звольнілі з працы і загадалі ехаць у Польшчу. Паехала яна туды, а 9 ліпеня 1949 году выйшла замуж за свайго старога ўхажора Стэха.Я-ж засталася ў Бэрліне.

Працуючы разам у Бэрліне, мы з Верай пачулі, што наша сястра Гэльця, якая з прыходам у Беларусь савецкай улады была вывызена ў Сібір і цяжка працавала ў шахце вугля, знаходзіцца ў Польшчы. Пачалі мы з Верай шукаць яе. Узялі адпачынак, паехалі ў Польшчу і цэлы месяц хадзілі ад мястэчка да мястэчка, ад вёскі да вёскі па цэлай Пазнаншчыне, шукаючы яе. Нарэшце, знайшлі ў гаспадара каля Гнезна. Адразу забралі яе, завязьлі ў Зялёную Гару й аддалі ў ткацкую школу. Пасылалі ёй пасылкі.

Пасьля выезду Веры запрыязьнілася я зь Флёркам Вечоркам паляком з Бэрлінскай полёніі. Кожную вольную хвіліну праводзілі мы разам. Разам сабіраліся мы паехаць у жніўні 1949 г. на востраў Ругію правесьці над морам свой адпачынак.

Ноччу 10 жніўня прысніўся мне дзіўны сон. Бягу я дарогай, якая раптам крыжуецца. Адна вядзе на захад, другая—на ўсход. Затрымалася я , глянула направа й убачыла сваіх сяброў зь Вільні. Замест, каб ісьці да іх, павярнула я на ўсход. Пабегла да жыта, зь якога, як з-пад зямлі прыпынілі мне дарогу чырвонаармейцы. Трымаючы паперкі ў руках, яны сказалі: «Стой!»Затрымалася я і падумала —«Арыштаваная».

Абудзілася здэнэрваваная, прадчуваючы нешта страшнае. Пайшла да працы.Прыйшоў мой начальнік і сказаў, што мяне выклікаюць у Варшаву ў справах службовых на тры дні. Ведала я, што мяне там чакае. Магла ня ехаць,кінуць працу і схавацца ў вялкім Бэрліне, але гэтага не зрабіла. Калі не паеду, разважала я, то забяруць Веру. Я буду жыць на волі, а ўсе мае родныя будуць

і Флёрак. Паехала, як стаяла. Тры дні яшчэ хадзіла па Варшаве і 12 жніўня пад вечар на кватэры працаўніцы місыі Марыі Тытрбах мяне арыштавалі.

Помню цэлы дзень падаў дождж. Мне вельмі захацелася выйсьці на спацар у Лазенкі. Нікога ня было дома, і я ўжо апранулася, каб выйсьці, як раптам вярнулася дамоў дачка пані Марыі Ірэна і зьдзівілася, што я выходжу. Кажу ёй, што не магу уседзіць у хаце, так хочацца мне прайсьціся. А яна адказвае: «Ісьці такім дажджом, зусім здурэла».

Так я ня выйшла. а яна пакруцілася ў хаце і зьнікла. Праз некалькі мінут пастукалі ў дзьверы мужчыны, пытаючыся пра Ірэну і просячы, каб я іх упусьціла ў хату. Адчыніла я дьзверы. Пагутарылі крыху са мной, падалі мне загад на мой арышт, гаворачы: «Пані ест арэштована».

Думала, што зямля пада мной заваліцца, якое гэта страшнае слова. Павязлі мяне ў турму, якая мясьцілася ў падвалах будынку Міністэрства бясьпекі на рагу вул. Кошуковай і Алеяў Уяздоўскіх. Зрабілі рэвізію, адабралі тарэбку, грабяні і іншыя дробныя рэчы. Завялі мяне ў камеру, дзе знаходзілася яшчэ адна жанчына. Звалася яна Люба, калі добра помню, прозьвішча яе было Камінская. Гутарыла яна па-польску, але казала, што зьяўляецца румынскай грамадзянкай. Сядзела яна ўжо 9 месяцаў. На заўтрашні дзень прыйшла яшчэ адна маладая жанчына Нюся, прозьвішча ня помню. Была яна вельмі мілая, але тая Люба... Яна была немагчымая. Калі нам хлеб падавалі, яна яго хапала і дзяліла. Калі налівалі ў міску суп, яна доўга перабірала, каб узяць тую міску, дзе трапіў кавалачак мяса. Калі яна садзілася, іграць у шашкі, якія мы зрабілі з хлеба, ніхто ня смеў абыграць яе, бо яна тады злавалася і мсьцілася. Найбольш мяне абурыла, калі нас перавялі ў новую камеру, у якой усе сьцены былі распісаныя вязьнямі. Люба не дала прачытаць нам ані слова. Схапіўшы мокрую анучу, яна адразу змыла ўсе сьцены. Таксама яна часта будзіла мяне ноччу, (а мне так цяжка было заснуць) і казала, каб я перавярнулася на другі бок, бо я дыхаю ёй у твар. (Камера была малая і спалі мы адна ля другой блізка). У камеры, каля самай столі было маленькае акенца. У куце стаяў «кіпэр»,які вечарам выносілі ва ўмывальню на калідор апаражняць. На прагулкі нас ня выводзлі, на допросы нікога ня клікалі. Мяне толькі раз пазвалі спісаць біяграфію. І так мы сядзелі дзень і ноч, ня ведама, чаго чакаючы.

Аднойчы у нашую камеру прыйшлі рабіць рэвізію. Вывелі нас з камеры і замкнулі асобна кожную ў іншай. Я трапіла ў вузенькую, маленькую сьмярдзючую камеру без вакон. На зямлі ляжаў сяньнік, а ў кутку стаяла параша «кіпэр». Ня было ані кусочка мейсца, дзе можна было-б прайсьціся. Усю камеру займаў сеньнік. Сядзела я на ім і думала:«Няўжо ў гэткай камеры людзей трымаюць? Гэта немагчыма. Тут і дня вытрымаць ня можна».Пазьней я даведалася, што у такой-жа камеры сядзела мая родная сястра Вера, будучы цяжарнай. Арыштавалі яе гэтага самага дня, што і мяне ў Вроцлаве. Адразу прывязьлі ў Варшаву і пасадзілі ў такі хлеўчык. Месяцам раней яна выйшла замуж. Мела першую цяжарнасьць.Я адчувала, што яна дзесьць у Варшаве, бо аднаго дня, калі нас вялі мыцца ў лазьню (таксама ў падвале), пачула я яе голас. Таму я і напісала заяву да начальніка турмы з просьбай, што калі тут ёсьць мая сястра, то трэба даць ёй лепшыя ўмовы, бяручы пад увагу яе цяжарнасьць. Пішучы заяву мне ў галаву не прыхадзіла, што яна знаходзіцца ў такіх страшных абставінах. Нажаль, маёй

просьбы ніхто ня ўзяў пад увагу. І сястра мая без паветра, бяз дзённага сьвету, галодная сядзела нямала часу, пакуль, выйшаўшы на калідор, не паваліліся і не страціла прытомнасьць.Тады перавялі яе ў крыху лепшую камеру.

Былі мы часова затрыманыя і гэты найцяжэйшы час нам не залічылі. Я прасядзела так тры месяцы—Вера даўжэй. У міжчасе сабралося ў нашай камеры больш жанчын. Некаторых пачалі клікаць на дапросы. Усе былі забраныя па-за домам,на вуліцы. Вельмі баяліся сьледства, расказвалі аб розных пакутах. Аднаго дня я прачнулася і кажу: «Сёньня мая чарга». Не пасьпела я так сказаць, як мяне паклікалі. Больш я ў камеру не вярнулася. Перадалі мяне савецкім уладам. Перавязьлі ў турму на Грохов.

Знаходзілася яна ў сутарэньні старога будынку, у якім складалі вугаль. Сажа ляжала на зямлі, на сьценах, на столі. У куце стаяла вялікая сьмярдзючая бочка, якую ніколі не апаражнялі, і якая працякала. На зямлі былі голыя дошкі, якія нам служылі ложкам. Прывялі мяне сюды з адной жанчынай. Перад домам, на ланцугу, сядзеў вялікі сабака, але на мяне ня кідаўся і не брахаў, калі мяне вялі. Глядзеў, як-бы спачуваючы. У гэтым сутарэньні мы праседзілі два тыдні. Бедная Вера была тут пазьней, у студзені, калі ня было, дзе сагрэцца. Праседзела яна сорак сутак.

З Грохава павязьлі нас у Лігніцу і пасадзілі ў турму пры ваеннай савецкай камэндатуры. Ехалі мы з Варшавы ў гэты горад таварным цягнікам цэлы тыдзень. У вагоне было нас тры жанчыны. Перад намі ў будцы стаяў савецкі вартаўнік. Калі засьвяціла сонца, якога мы больш трох месяца ў ня бачылі, мы падыйшлі да шчыліны, праз якую яно сьвяціла, і наставілі твары. Бачучы гэта вартаўнік пачаў рычаць, каб вярнуліся на сваё мейсца, у куток вагона і не глядзелі на сонца.Пасьля зьмены іншы вартаўнік прамовіў да нас: «Я на вас гляджу, а ў мяне сэрца разрываецца ад болю, так мне шкода вас». Як мог ён стараўся нас пацешыць.

У Лігніцы прабылі мы два тыдні. Некалькі дзён падрад завязвалі нам вочы і вязьлі некуды. Пасьля ізноў назад варочаліся. Нас хацелі адправіць самалётам у Маскву, але самалёт не адлятаў. Нарэшце, паляцелі. Увесь дзень трымалі нас з завязанымі вачыма. Хаця вочы мае былі завязаныя я ўбачыла, што нехта сядзеў каля мяне з кайданамі на руках. Куды нас вязуць мы ня ведалі. Вывелі нас з самалёту, адвязалі вочы і пачалі абшуківаць. Прывялі ў камеру без вакон. Аказалася, што трапіла ў маскоўскую Лубянку. Не падабалася мне там тое, што загадывалі спаць з рукамі паложанымі на верх коца. Як толькі я рукі схавала адразу стукалі ў дзверы і будзілі.

У Лубянцы прыгадваю аднаго вартаўніка, чалавека старэйшага, які, ўбачыўшы, што вядуць мяне на прагулку позьняй восеньню ў летнім паліто, схапіў целагрэйку і накрыў мяне. Гэты-ж самы вартаўнік часта адчыняў вакенца маёй камеры і пытаўся, ці хачу напіцца гарбаты. Сядзела я ў камеры ўвесь час адна. Усьцешылася, калі прынясьлі мне кнігі. Пачала чытаць і перастаў час доўжыцца.

Пасьля двух тыдняў пасадзілі мяне ў чорны воран і павезьлі на станцыю. Калі адчынілі дзьверы ворана, каб высела, убачыла я накіраваныя на сябе некалькі штыкоў. Так мяне пільнавалі, каб не ўцякла, выходзячы. Акружылі мяне вартаўнікі, а было іх ня менш як 5 чалавек. Вялі па пэрону да цягніка. На станцыі было многа людзей і ўсе за мной аглядаліся, думаючы, якую-ж тут вядуць праступніцу? Мне-ж, ідучы, ха-

целася плакаць і сьмяяцца. Думала, што такога зрабіла, чаму столькі людзей мяне пільнуюць? Як шкада, што ня бачыць мяне Люня або іншыя сябры зь Вільні, з вуліцы Завальнай, якія жывуць сабе спакойна і не прадчуваюць, што я тут перажываю. Дзеля таго, што было ўжо холадна, мне далі старую зьнішчаную жаўнерскую ватоўку, якую я апранула на свой белы летні плашч. На галаве мела хустку і так ішла па пэроне.

Завялі мяне ў прадзел, вызначаны для вязьняў і паставілі вартаўніка, які не спушчаў зь мяне вачэй. Я таксама на яго глядзела.

—Чаго так глядзіце на мяне?— запытаўся, нарэшце, ён.

—Вы мне вельмі прыгадваеце майго брата. А можа Вы і запраўды мой брат? У мяне, тут ў Савецкім Саюзе,у Магілёўшчыне ёсьць родны дзядзька, які мае дзяцей. Нажаль, я іх ніколі ня бачыла. Вось можа Вы і зьяўляецеся сынам майго дзядзькі.

Мой «брацік», штыком, ледзь не пракалоў мяне, ідучы ззаду. Праўда потым,раптам запытаў мяне, ці я хачу піць або есьці, то ён прынясе мне.Калі выйшлі зь цягніка, мой брацік далёка застаўся ззаду, не ўпіраўся больш ў мяне штыком.

Прывязьлі мяне ў Менск, у турму, званую амэрыканкай. Тут толькі падпісала я ордэр аб маім арышце. Лічылася я арыштаванай зь днём прыбыцьця ў Менск, а гэта было напачатку сьнежня 1949 г. Цэлы месяц сядзела я ў камеры адна. Адна праводзіла першыя Каляды ў заключэньні. Тады я напісала першы ў жыцьці верш, які да сёньняшняга дня помню.

*Сёньня Каляды, Хрыстос нарадзіўся,*
*Цешацца людзі, што ім аб'явіўся.*
*Ёлкі ўбралі, песьні сьпяваюць,*
*Госьці прыходзяць, жаданьні складаюць.*
*Кожны імкнецца быць са сваімі—*
*Сьвята праводзіць ён не із чужымі,*
*А ў роднай хатцы, дзе хто радзіўся,*
*Да грудзей маткі, дзе ён туліўся.*
*І я хацела-б быць дома сёньня,*
*Дзяліць з другімі радасьць каханьня.*
*На спацар выйсьці, суседаў адведаць.*
*Музыкі паслухаць і пабяседваць.*
*Мела і я калісь родную хатку,*
*Братоў, сясьцёр, бацьку і матку,*
*Куцьцю ўрачыстую і мы прыгатаўлялі*
*Сьвечкі і цацкі на ёлку чаплялі.*
*Але нядоўга нам сонца сьвяціла,*
*Бацькі памерлі—гора прыбыла.*
*Сям'я рассыпалася па сьвеце цэлым*
*Хаваючы смутак у сэрцы збалелым.*
*Ані адно не знайшло з нас долю,*
*Замест шчасьця—пайшлі ў няволю*
*Пакутваць за грахі чужыя,*
*Няведама за чыё і за якія.*

Турма была круглая. У камерах былі ложкі. Выводзілі на прагулкі, давалі да чытаньня кнігі. Нажаль, усе на рускай мове. А сядзела-ж я ў сталіцы Беларусі. Раз прынясьлі мне кнігу, на вокладцы якой я ўбачыла надпіс «Якуб Колас». Як-жа я на яе кінулася, бо нарэшце, далі мне кнігу на беларускай мове. Тут-жа адразу і расчаравалася, бо калі адкрыла кнігу, то ўбачыла, што яна была пераведзеная на рускую мову. Якуб Колас на рускай мове гучаў чужым і далёкім.

Пачалося сьледства.Справу маю вёў Кутузаў. Не магу сказаць, каб ён быў вельмі кепскім. Ня біў мяне, а толькі мучыў бясоніцай. Не давалі мне ані ноччу, ані днём спаць. На дапрос клікалі ноччу, трымаючы доўгія гадзіны. Не паспела бывала вярнуца ў камэру і легчы ў пасьцель, як ізноў адчынялася аконца і мяне выклікалі. І так тры ці чатыры разы праз ноч. А днём не дазвалялі нават сесьці на ложак. Калі толькі седзячы пры стале я здрамнула адразу

адкрывалася аконца і вартаўнік загадваў разбудзіць мяне. Тады хто-небудзь зь вязьнярак ударала мяне пальцам па носе. Не напісала я, што пасьля месяца далі ў камеру сяброваак па няшчасьцю. І так сядзела са мной лекарка зь Менска, балярына Марыя Сьцепанец і розныя іншыя. Была таксама так званая «наседка» або «стукачка» Марыя, пасаджаная для таго, каб даносіць начальству, аб чым вязьні з сабою гутараць. Ня лёгка мне было сядзець зь імі, бо большасьць варожа адносілася да «заходнікаў». Ня мела я шчасьця быць разам хоць з адной «заходніцай».

Ад недасыпаньня пачаў мяне мучыць моцны галаўны боль. Лістоў пісаць ня можна было і паведаміць сваіх родных аб тым, дзе я знаходжуся. Не атрымлівала я ніякіх перадач. Нікога ніхто не адведываў. Некаторыя жанчыны атрымлівалі перадачы і часта дзяліліся са мною.

Сьледчы мой быў, як артыст. Адзін раз жартаваў са мною і смяяўся, іншым разам без прычыны крычаў, як ашалелы. Кожную ноч клікаў мяне і ўсё пісаў і пісаў пратаколы, а я іх падпісывала. Прыпісвалі мне многа таго,чаго зусім ня было. Будучы ў часе вайны перакладчыцай, я крыўды ніякай нікому не зрабіла. Наадварот дапамагла многім. Некаторых выратавала ад сьмерці, ведаючы нямецкую мову.

Часамі сьледчы спрабаваў уключыць радыё, спачатку ціха, пазьней галасьней, гледзячы на мяне, як я зарэагую. Пачуўшы музыку адразу пачынала плакаць. Тады ён выключаў радыё.

Аднойчы даведалася, што Вера ў Менску і ў турме радзіла сына. Больш года цягнулася маё сьледства, а пасьля перавялі мяне ў іншую турму, якую звалі гарадзкой. Будучы там, паклікалі мяне на нейкі допыт. Ідучы праз панадворак спаткала Веру зь дзяцём у руках. Яна мяне ня бачыла. Калі я крыкнула: «Вера»,—міжвольна зрабіла рух да яе, то яе хутка павярнулі назад і зачынілі ў будынку. Яна толькі пасьпела падняць уверх высока сына і паказаць мне яго.

Сядзела я цяпер у прыбудоўцы да гарадзкой турмы. Былі тут толькі вязьні палітычныя. У маленькай камеры стаялі 4 ложкі. На прагулку выводзілі нас у крыху большую камеру бяз столі. Чатыры сьцяны яна мела і краты над галавою. Туды пускалі нас без канвоя, і якіх 20 мінут мы хадзілі адна за адной.

Не сказала я аб тым, што раней, чым перавялі мяне ў новую турму, далі мне прачытаць мае пратаколы, сшытыя ў грубую кнігу з дапросамі пра мяне розных людзей. Тады я даведалася, што Езавітаў быў савецкім вязьнем,бо пры маёй справе быў яго пратакол пра Беларускі Кангрэс у 1944 годзе. Быў таксама пратакол Усевалада Караля, Байка і многіх іншых. Ніхто нічога кепскага пра мяне не сказаў. Дапрасілі ў суме 100 асоб. Байкоў крыху накруціў, бо сказаў, што я мела бацькоў кулакоў, якіх у 1940 г. раскулачылі. А мае бацькі ад 1929 г. ня жылі на гэтым сьвеце.

Цяпер чакала я на прыгавор. Справу маю пераслалі ў Маскву для разгляду праз «особае совещание».

Седзячы ў камеры агледзілася, што ў будынку насупраць нашага, на трэцім ці чацьвёртым паверсе сядела Вера і часта паглядала ў вакно. Мы пачалі адна другую штодня здалёк бачыць. У мяне з кожным днём узмацьняўся галаўны боль. Нарэшце, узялі мяне да лекара і паклалі ў шпіталь. Тут я магла Веру яшчэ часьцей бачыць. Вось у тым часе, калі я была ў шпіталі прыйшоў прыгавор з Масквы. Асудзілі мяне на «10 лет исправительного лагеря».

(Працяг будзе)

Пасольства Рэспублікі
Беларусь
у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic
of Belarus
to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

---

February 22, 1994

PRESS RELEASE

## On New Elections in Belarus

In its recent statements the ruling body of the Parliament of Belarus - Presidium of the Supreme Soviet - declared its firm resolution to seek to obtain at the Parliament session resuming work today the support of parliamentarians to adopt a new Constitution and to hold popular elections of the Head of State of the Republic of Belarus in the first half of 1994.

As of the election of the Head of State who will also lead the executive branch the current Government ought to resign and a new Government should be formed.

Presidium of the Supreme Soviet intends also to seek a Supreme Soviet decision to hold - ahead of term set by the old Constitution - elections of a new Supreme Soviet in the second half of 1994 and to hold local elections in March of 1995.

---

March 5, 1994

PRESS RELEASE

## Presidency Being Introduced in Belarus

The Parliament of the Republic of Belarus approved the section of the draft new Constitution on a presidency in Belarus. According to it, "the President is the Head of State and the leader of the executive branch". The voting also confirmed that "the President should be elected for a term of five years directly by Belarusian people. One and the same person may be the president for no more than two terms".

The statute of a presidency is due to enter into force as a new Constitution is adopted as a whole. It is expected that the popular elections of the first President of Belarus may take place at the end of the first half of 1994.



МІНІСТЭРСТВА ЗАМЕЖНЫХ СПРАЎ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Press-release

## The Republic of Belarus: problems of the military reform and disarmament

In accordance with the military doctrine adopted in 1992, the Republic of Belarus adheres to the policy of armed neutrality and does not consider any state as its potential rival, does not treat any nation as an enemy.

With the purpose of the defense of sovereignty, territorial integrity and constitutional State system Belarus possesses armed forces, consisting of ground forces, anti-aircraft defense and Air force.

The armed forces are replenished on the basis of universal conscript system and voluntary contract service. The overall strength of the personnel of the armed forces - 92 654 men. The core of the organisational stuff structure is a link - "corps - brigade".

The building of the armed forces of the Republic of Belarus began on the basis of the Byelorussian military district of the armed forces belonging to the ex-USSR, located on Belarus territory, what had its positive as well as negative sides.

Among negative consequences the most dramatic - is an enormous redundancy of personnel, armaments, military equipment and military infrastructure of the anti-aircraft defense in comparison with the needs of the defensive mission of the armed forces of Belarus. Thus, approximately, 200 000 of personnel, about 3500 of tanks, about 4 000 of armoured combat vehicles and a great number of other combat equipment were located in 1991.

The realisation of the principle of the defensive

sufficiency demands reducing of the mentioned number of personnel more than in half, to eliminate ( in accordance with the obligations to the CFE Treaty) about 2000 tanks and approximately 1300 armoured infantry vehicles.

Nowadays, besides the troops, relevant to the proper armed forces, the units of strategic nuclear forces of Russia are located on the Belarus territory.

Carrying out the obligation in consecutive order according to the Lisbon Protocol, Belarus ratified START Treaty, joined the NPT Treaty and transfered the strategic nuclear forces under the jurisdiction of Russia.

The legal grounds for the stationing of these forces on the territory of Belarus are laid out in the Treaty on the status of the strategic forces, signed in 1993, and the period of their stay and order of their withdrawal - in the Agreement on the order of the srategic forces withdrawal.

According to the Agreement on the order of withdrawal the nuclear forces must leave the territory of Belarus by the end of 1996. The troops are leaving along with their armaments and military equipment, but many military officers choose Belarus as the place of their permament residence.

The elimination of the abundant military potential and removal of the consequences of residence of the strategic nuclear forces on the territory of the Republic of Belarus create a long line of problems: - military personnel resigned in connection with the reduction of the armed forces needs reeducation and new jobs and in many cases logings should also be provided. Thus,the number of military men, who ought to resign from the armed forces, is about 0.1 of the whole country population; - in the course of reduction of the armed forces more than 100 military sites are being vacated and the populated areas, connected with them are in a great need to find their civil role because in previous times the majority of them was not included in the economic structure of the state; - the places of location of the former military bases need an expensive rehabilitation of the natural surroundings, before they could be used for the needs of civilian economy; the complicated economic situation in the Republic threatens the implementation of the military reform and disarmament programs.

Пасольства Рэспублікі
Беларусь
у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic
of Belarus
to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

March 21,1994

PRESS RELEASE

## Strategic Missiles Being Removed from Belarus

The removal of the group of the Strategic Rocket Forces from the territory of Belarus to Russia continues. The group consisted of two divisions (eight rocket regiments) equipped with the mobile land -based missile complex "Poplar", known in the West as SS -25. There were 72 launchers. The two major sites were the areas of Lida and Mozyr.

The first rocket regiment (9 launchers), stationed in Postavy, was removed to Russia in summer 1993. The next four regiments (36 launchers) will be removed during 1994 and the rest of them will leave Belarus in 1995 according to the schedule coordinated by Defense Ministries of Belarus and Russia. By the middle of 1996 Mozyr and Lida rocket divisions will be totally disbanded in accordance with the START I Treaty.

As reported, the missile complex "Poplar" will form the basis of Strategic Rocket Forces of Russia.

The military personnel of withdrawn regiments which stays over in Belarus will be transfered to the reserve. They will enjoy the same rights as the citizens of the Republic of Belarus.

After the removal of missiles is completed the former missile bases will be transfered under Belarusian control.

After sending away the "Poplars" Belarus will become the first post - Soviet state which meets in deed its commitments to world community without any preconditions and reservations, accedes to the Nuclear Non - Proliferation Treaty as a truly non -nuclear state.

Пасольства Рэспублікі
Беларусь
у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic
of Belarus
to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

PRESS RELEASE March 25, 1994

**Secretary of Defense Visited Minsk**

Secretary of Defense W.Perry was on an official visit to the Republic of Belarus March 23, 1994 and held talks with Minister of Defense of Belarus P.Kozlovski. He was also received by the leaders of Belarus.

The issues of the US support for Belarusian efforts aimed at implementation of denuclearization and the realization of the Nunn -Lugar program for the Safe and Secure Dismantlement (SSD) of nuclear weapons were discussed. The US assistance to Belarus under the SSD program reached $ 100 million.

The first meeting of the US - Belarusian Joint Commission on Defense Conversion took place. Secretary Perry announced contracts between American and Belarusian enterprises.

It was stated with great satisfaction that Belarus has been in the forefront of nuclear disarmament among the CIS states. In 1993 Belarus and the US concluded pioneering breakthrough agreements which allowed for extensive cooperation in areas of defense conversion, ecological rehabilitation of former missile sites, etc. Belarus also enjoys advanced cooperation with the US in establishing a tight export control system.

The issue of fair compensation to Belarus for the value of the highly enriched uranium in nuclear warheads was discussed also.

The further development of military-to-military cooperation between Belarus and the US was among important subjects of discussion.

Secretary of Defense W.Perry announced the United States' intention to assist Belarus in carrying out conventional demilitarization. The announced program is the first and unique.

The Partnership for Peace initiative was discussed at length during the talks. Secretary Perry was informed that the issue of the possibility and the extent of Belarus' participation in the Partnership for Peace was being closely studied by Commissions of the Supreme Soviet. According to Defense Minister Kozlovski " today Belarus closely cooperates with the USA

and other NATO states". Speaking of PFP developments the Minister stressed:"This will remove apprehensions that the frontier between East and West would lie along the Bug -river.The Berlin wall should not be moved over to our border".

William Perry was received by Chairman of the Council of Ministers of the Republic of Belarus Vyacheslav Kebich. Chairman Kebich highly assessed the Secretary's visit as a sign of considerable changes in bilateral relations.

Secretary Perry also met with First Deputy Chairman of the Supreme Soviet of Belarus Vyacheslav Kuznetsov.

The Document on Principles of US -Belarusian Joint Commission on Defense Conversion was signed by Minister Kozlovski and Secretary Perry.



Пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі



Embassy of the Republic of Belarus to the United States of America

1619 New Hampshire Avenue, N.W.
Washington D.C. 20009
Phone: (202) 986-1604
Fax: (202) 986-1805

March 28, 1994

PRESS RELEASE

**The Belarusian Diplomacy is 50.**

The Belarusian diplomacy celebrates its half-century jubilee. 50 years ago, at the end of March 1994 the Sixth Session of the Supreme Soviet of the Byelorussian SSR which took place in Ghomel, liberated of Nazi occupants, decided to re-establish the People's Commissariat for Foreign Affairs of BSSR. In this connection the corresponding article in the Constitution of Belarus of 1937 was amended. A week later the Deputy Chairman of the Council of People's Commissars of Belarus, K.Kiselev was appointed People's Commissar for Foreign Affairs of the republic. Since then Belarus became an active participant of international cooperation.

The Republic of Belarus is one of 51 founders of the United Nations Organization. On June 26,1945 the representatives of Belarus K.Kiselev, A.Zhebrak, V.Pertsev, G.Baidakov, F.Shmygov signed the Charter of this authoritative international organization. Belarusian diplomats actively engaged in the process of settling actual problems of the European and world policy. Hundreds of important decisions initiated by BSSR were adopted by the UN. Among them are the UN resolutions concerning extradition and punishment of perpetrators of military crimes; non-spreading of the term of prescription for military crimes and crimes against humanity; protection of persons arrested or imprisoned for their struggle against aparteid, rasism and racial discrimination, colonialism, aggression and foreign occupation.

In 1947 Belarus joined the International Telecommunication Union and Universal Postal Union and a year later -the World Meteorological Organization. Along with 60 other states of the world Belarus founded the World Health Organization. As a whole Belarus is represented in approximately 60 international organizations, it has become participant in 200 bilateral and multilateral agreements and treaties on disarmament, peaceful exploration of space, non-proliferation of nuclear weapons, international cooperation including the use of scientific and technical progress for peace and social development, human rights.

Proclamation of the Declaration of State Sovereignty of Belarus by the Supreme Soviet of BSSR on July 27,1990, elevating it to the constitutional status in August 1991 and proclamation of political and economic independence of the Republic opened a qualitatively new period in international and foreign policy activities of Belarus. Within a short period of time -between September 1991 and the end of 1992- the Republic of Belarus was recognized by the international community. At present Belarus is officially recognized by 117 countries of the world, 90 countries among them have established diplomatic relations with it. Belarus has become a full-fledged member of the Conference on Security and Cooperation in Europe (CSCE).

Mr.Krauchanka, Foreign Minister of the Republic of Belarus, stated the basic principles and priorities of foreign policy of the Belarusian state at the 46th session of the UN General Assembly in October 1991. They include sovereignty, achieving real independence, desire to live in a neutral, nuclear-free state, strengthening good-neighbour and constructive relations both with East and West and integration into the European process. Vital interests of the Belarusian people will remain the basis of the foreign policy of the Republic of Belarus.

# Змова

Міхась Белямук

У Кліўленд 6 сакавіка 1994 г. адбыўся гадавы перавыбарчы сход парафіі Жыровіцкае Божае Маці. Шмат хто з парафіянаў быў зьдзіўлены, угледзіўшы ў алтары ўладыку Мікалая з Таронта,бо Царкоўны камітэт не пастанаўляў запрашаць яго на сход.

З амбона, а пасьля ў пачатку схода ўладыка Мікалай выступіў з казаньнем: *« У Беларусі няма Беларускае Праваслаўнае царквы. Ёсьць Маскоўская Праваслаўная царква і маскоўскі япіскапат. Мітрапаліт Філарэт ніякае ўлады ў Беларусі ня мае, ён без дазволу маскоўскага патрыярхі ня мае права сьвятара з аднае парафіі перавезьці ў другую. Філарэт праводзіць русыфікацыю, душыць усякі праяў беларускасьці. Прыклад—яго расправа над сьвятаром у Салігорску,калі сьвятар загаварыў па-беларуску.*

Слухаючы казаньне ўладыкі, прыходзіш да высновы, што ён, мабыць, хоча пазбавіць Філарэта мітрапалічага пасаду, каб самому ўзначаліць Праваслаўную царкву ў Беларусі. Бо ў іншым выпадку, навошта з амбона лаяць мітр. Філарэта? У 1992 г.мітр. Філарэт з пашанай сустракаў і прымаў уладыку Мікалая ў Менску,даў дазвол на Богаслужэньні ў цэрквах,прызначыў духавенства,каб асыставала ў Богаслужэньні ўладыку.

Парафіяне спыталіся: «Якія цэрквы прызнаюць БАПЦ, што ўзначальвае уладыка Мікалай?» Адказ: «Ніводная». Пасыпаліся іншыя пытаньні. Уладыка Мікалай некалькі разоў паўтарыў, што ён хоча памірыцца з уладыкам Ізяславам (Бруцкім) і не супраць яму падначаліцца. Шмат хто быў зьдзіўлены, што, прасудзіўшы 180.000 даляраў, уладыка вырашыў памірыцца. Чаму-ж не шукаў ён пагадненьня раней, калі мітрапаліт Андрэй слаў лісты, просячы аб спатканьні і мажлівасьцях палагоджаньня царкоўнага закалоту.

Людзі пачалі дамагацца пачаць гадавы сход. Пасьля справаздачаў і выбару царкоўнага камітэту, людзі пачалі разыходзіцца. Абмяркоўваючы бюджэт на 1994 г., Я. Ханенка прапанаваў,каб у бюджэт уключыць субсыдыю на часопіс «Полацак». Тут-жа і выявілася сапраўдная мэта прыезду ўладыкі Мікалая. Стала вядомым, што ён і сябра Царкоўнай Рады БАПЦ Мікола Ганько прыехалі ў Кліўленд напярэдадні сходу і правялі «нарады» ў справе часопісу. Уладыка Мікалай сваім першым выступленьнем даў сыгнал Янку Каваленку, Аўгену Кабяку, Міхасю Калядку выступіць з абвінаваньнямі часопіса. Абвінавачвалі ў тым, што сябры рэдкалегіі езьдзілі ў Чыкага на сьвяткаваньне 35-годзьдзя парафіі сьв. Юрыя,а таксама, што часопіс друкуе аб «зарубежніках» у Саўт Рыверы, Нью Ёрку, Чыкага ды зьмяшчае артыкулы «русафілаў». Калі Уладыка Мікалай назваў часопіс «варожым»,да «крытыкаў» далучыліся Юрка Каляда, Ірына Каляда-Сьмірнова, Лёля Міхальчык. Паўстаў шум, пачалі крычаць, каб субсыдыю на часопіс не ўключаць у буджэт. Уладыка запрапанаваў спыніць субсыдыю наагул на часопіс. Каваленка, Калядка, Кабяка, Каляда падтрымалі прапанову. Яна і прайшла. Калі пасьля галасаваньня частка людзей пакінула залю, Уладыка сказаў: «Грошы, што давалі на часопіс, аддайце мне». Прагаласавалі аддаць.

Падчас галасаваньня ў справе часопісу ў залі было ня болей 40% прыхажанаў, не-

каторыя зь іх разгубіліся ў такой атмасфэры і ўдзелу ў галасаваньні не бралі Паўстае пытаньне, чаму ўладыка выступіў супраць субсыдыі часопісу «Полацак». Уладыку Мікалаю на ягоную кансысторыю парафія пасыла штогод каля 2000 даляраў. У гэтую суму не ўлічваліся спэцыяльныя пасылкі грошаў, як падарункі калядныя, вялікодныя, на дзень народзінаў, на падарожжы. Калі ўладыку было замала грошаў, ён могбы зьвярнуцца да царкоўнага камітэту й яму не адмовілі-б. Парафія ў Кліўлендзьве мае ў розных банках каля 400.000 даляраў і кожны месяц атрымлівае зь «бінга» 12 000 даляраў, не ўлічваючы прыбыткаў ад парафіяльных складкаў, ахвяраваньняў, ад продажу сьвечаў, за малебны, паніхіды, шлюбы і г.д.

Мы гэтым разам не будзем называць усіх прозьвішчаў сябраў Царкоўнай Рады БАПЦ, Рады БНР, БІНіМ, Галоўнае Управы БАЗА, якія байкатавалі і байкатуюць часопіс.Падамо толькі прозьвішчы Міколы Ганько, які не купіў ні воднага часопіса, але на XX Сустрэчы беларусаў часопіс «Полацак» называў «барахлом». Раіса Жук-Грышкевіч, якая ўзначальвае ў Канадзе аддзел БІНіМ, зьвярнула пасланыя ёй часопісы. У ЗША ёсьць Асацыяцыя беларусістаў, узначальвае яе праф. Томас Бэрд, які ніводнага нумару не купіў і адмовіўся дапамагчы, каб славістычны факультэт ўнівэрсытэту, дзе ён працуе зрабіў падпіску на «Полацак». Не зрабіў падпіскі на беларускую сэкцыю радыё «Свабоды» й ягоны дырэктар Вячаслаў Станкевіч. ЗША выплачавала на радыё «Свабода» кожны год 200 мільёнаў даляраў. Прыблізна 5% ад гэтае сумы ішло на закуп прэсы, выданьняў эміграцыі. Сам-жа Станкевіч,маючы гадавога заробку каля 80 тысяч, адмовіўся зрабіць асабістую падпіску на часопіс, спаслаўшыся на недахоп грошаў. Як-жа тады беларусы пенсыянеры, маючы каля 14 тысяч у год, прысылаюць грошы на падпіску? Каго-ж тады трэба называць беларускім патрыётам?

Кліўленд ў вачох «сьвядомае эміграцыйнае беларускае інтэігенцыі» ёсьць правінцыя, паляшуцкі, мужыцкі асяродак, які да нічога няздатны. Гэты «мужыцкі» асяродак пачаў выдаваць часопіс «Полацак», не папытаўшы дазволу ў «сьвядомых». Мы, друкуючы рэгулярна па 10 нумароў на год, выдалі 32 часопіса «Полацак». Пасылаем мы 300 часопісаў у Беларусь: Менск, Горадню, Берасьце, Полацк, Віцебск, Магілёў, Гомель, Маладэчна, Германавічы, Ганцэвічы, Камянец, Давыд-Гарадок, Столін, Пружаны, Слонім Жыровіцы, Паставы, Новаполацак. Пасылалі 120 часопісаў беларусам блізкага замежжа у Вроцлаў, Варшаву, Гданьск, Беласток, Вільню, Рыгу, Тукмус, Дьзвінск, Пецярбург, Мурманск, Калугу, Маскву, Якуцк, Бішкек, Алма-Ату, Прыазерск, Ізяслаў, Кіеў, Львоў.

«Сьвядомыя» вырашылі, каб спыніць выданьне часопіса «Полацак», трэба адабраць субсыдыю і накіравалі ўладыку Міклая ў Кліўленд. Для ўраду Кебіча «Полацак» таксама быў сольлю ў воку, бо «Полацак» падключыўся да змаганьня за адраджэньне беларускай самасьвядомасьці.

Мы хочам сказаць чытачам часопіса, што «Полацак» будзе і далей рэгулярна выходзіць па 10 нумароў на год. Мы просім падпішчыкаў прысылаць гадавую падпіску 60 даляраў і будзем шчыра ўдзячныя за ахвяраваьні. Просім кожнага заахвоціць знаёмых стаць падпішчыкамі часопісу. А Вы, дарагія патрыёты, навукоўцы Беларусі, далей памагайце нам сваімі артыкуламі. Выданьне часопісу «Полацак» ня можа спыніцца, мы абавязаны ісьці ўперад, каб нацыянальная сьвядомасьць запанавала ў нашым народзе.

# БЕЛАРУСКАЯ
## НАРОДНАЯ РЭСПУБЛІКА



# КНІЖАЧКА
## БЕЛАРУСКАГА ЭМІГРАНТА